10 траўня 2019 | № 17 (628)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Вялікі скачок Еўропы
Стар. 8

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



# «Прымусу да інтэграцыі» — паўгода. Якія вынікі?

**Пра тое, што ў беларуска-расійскіх дачыненнях нешта адбываецца, стала зразумела яшчэ з лета мінулага года, калі Лукашэнка пачаў надоўга завісаць у Сочы па запрашэнні Пуціна. Але з афіцыйных крыніц стала вядома пра змену курса Расіі адносна Беларусі толькі напрыканцы 2018-га.**

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

Выступ прэм'ера Расіі Дзмітрыя Мядзведзева ў Брэсце 13 снежня можна лічыць кропкай адліку для новага этапу беларуска-расійскіх дачыненняў. Кіраўнік ураду РФ заявіў, што кампенсацыя беларускаму боку стратаў ад падатковага манеўру ў Расіі магчымая толькі пры ўмове, што Мінск пагодзіцца на далейшае будаўніцтва Саюзнай дзяржавы, паводле дамовы, падпісанай у 1999 годзе.

Фактычна, Расія прапанавала змену мадэлі двухбаковых адносін. Прычым не проста прапанавала, а ўвяла механізм эканамічнага шантажу і прымусу. Што не магло не выклікаць крызісу дачыненняў паміж «саюзнікамі». Беларускае кіраўніцтва, як і чакалася, адмовілася ад вылучаных Расіяй умоваў.

Якія вынікі гэтага паўгадовага супрацьстаяння? Што маем на сёння? Прапаную некалькі высноваў, якія можна вывесці з гэтага перыяду.

**Першая выснова:** у расійскім палітычным парадку дня, расійскай замежнай і ўнутранай палітыцы беларускае пытанне стала значна больш актуальным і важным, чым зусім нядаўна. Палітычная вага Беларусі для Крамля заўважна павялічылася. Нашай краінай вырашылі заняцца сур'ёзна. Адносіны з бліжэйшым саюзнікам разглядаюцца на пасяджэнні Рады бяспекі РФ. Не ўзгадаць, ці было такое раней. Тэма Беларусі стала вельмі моцна гучаць у расійскай інфармацыйнай прасторы. Пра дачыненні з Беларуссю ўжо выказаліся большасць вядучых расійскіх палітыкаў, палітолагаў, журналістаў.

**Другая:** рэзкае абвастрэнне двухбаковых адносін дайшло да ўзроўню, які рэдка бывае паміж саюзнікамі. Упершыню за ўсю гісторыю стасункаў адбыўся інтэнсіўны абмен абразамі паміж расійскім паслом і беларускім МЗС. Упершыню Расія была вымушаная памяняць свайго пасла. Замест Міхаіла Бабіча новым паслом РФ у Беларусі стаў Дзмітрый Мезенцаў.

Лукашэнка прыгразіў прыпыніць транзіт расійскіх энергарэсурсаў — гэта апошні довад у канфлікце. І прыкмета таго, што стаўкі падвышаюцца і ўзровень напружання дасягнуў вельмі важнай мяжы.

Таксама Беларусь выкарыстоўвае ЕАЭС для ціску на Расію, блакуючы рашэнні ў рамках гэтага эканамічнага саюза.

**Выснова трэцяя:** адбылося заўважнае скарачэнне расійскіх субсідый Беларусі. Тое, што краіна не атрымае кампенсацыі за падатковы манеўр, можна лічыць фактам.

На парадку дня двухбаковых адносін пастаўленае пытанне адмены газавага гранту. Наш віцэ-прэм'ер Ігар Петрышэнка паведамляў, што да 30 красавіка Расіяй будзе вызначана цана на газ для Беларусі на наступныя гады. Беларускі пасол у Расіі Уладзімір Сямашка яшчэ 1 красавіка заявіў, што Мінск двойчы накіроўваў у «Газпром» свае прапановы па цэнах на газ, але не атрымаў ніякага адказу. Масква падвесіла гэтае пытанне?

1 красавіка міністр фінансаў РФ Антон Сілуанаў заявіў, што Расія выдаткуе Беларусі крэдытныя сродкі на суму да $600 мільёнаў. Маўляў, гэта рашэнне Пуціна. Але на наступны дзень прэс-сакратар кіраўніка Расіі Дзмітрый Пяскоў фактычна дэзавуяваў Сілуанава, адзначыўшы, што пытанне пра расійскі крэдыт Беларусі «знаходзіцца ў прапрацоўцы», таму не трэба «рабіць на гэты конт афіцыйных заяў», а варта дачакацца «адпаведнага моманту».



Фота www.unian.info

Не паступіў пакуль і апошні транш ($200 мільёнаў долараў) крэдыту Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця, хоць беларускі бок выканаў усе ўмовы, патрэбныя для яго атрымання.

Раней пасол Расіі Міхаіл Бабіч намякаў, што пытанне крэдыту, як і іншыя напрамкі эканамічнай дапамогі Беларусі, Масква звязвае з гатоўнасцю Мінска да «паглыблення інтэграцыі».

**Чацвёртая выснова:** адбываецца інтэнсіўны інфармацыйны наступ супраць Беларусі з боку Расіі. Апошнім часам праведзены шэраг даследаванняў на гэтую тэму, з якіх вынікае, што Расія планамерна разгортвае інфраструктуру інфармацыйнага ўплыву. Ідзе нарошчванне колькасці тэлеграм-каналаў, якія працуюць па Беларусі.

**Расія планамерна разгортвае інфраструктуру інфармацыйнага ўплыву**

Даследчыкі (напрыклад, Андрэй Елісееў) даводзяць, што дзейнічае каля 40 расійскіх рэсурсаў, што вядуць актыўную прарасійскую прапаганду на Беларусь. Прарасійскія структуры стварылі рэгіянальныя сайты, набываюць паблікі ў сацыяльных сетках і месенджарах, такіх, як Вайбер і Тэлеграм. Ствараюцца адпаведныя боты ў сацыяльных сетках. То-бок ідзе падрыхтоўка да маштабнай інфармацыйнай вайны супраць Беларусі.

Беларускія ўлады занепакоеныя такой сітуацыяй. Гэтае пытанне разглядалася на пасяджэнні Рады Бяспекі Беларусі. Прынятая новая канцэпцыя інфармацыйнай бяспекі. Але ніякіх практычных дзеянняў дзеля абароны ад расійскага інфармацыйнага наступу не робіцца.

**Пятая:** Расія імкнецца абрэзаць Беларусі заходні вектар, і гэта ў значнай ступені ў яе атрымліваецца. На нарадзе 5 траўня Лукашэнка паведаміў, што «супрацоўніцтва з Захадам сёння выклікае нейкую алергію і часам істэрыку ў нашага галоўнага партнёра — Расійскай Федэрацыі».

Працяг на стар. 2 »

# «Вы яшчэ не ведаеце, што такое катаванні»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Пасля 30 гадзін утрымання на Акрэсціна ІТ-кансультанта Глеба Рубанава прывезлі ў суд і ўручылі позву на 16 траўня.**

Як распавёў Глеб Рубанаў, увесь гэты час у цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў ён правёў без ежы і сну.

У 4.30 ранку 7 траўня на хатні тэлефон Глеба пазваніў чалавек, які прадставіўся дзяжурным Савецкага РУУС, і папрасіў выйсці ў двор, каб праверыць, ці не пашкоджаны яго аўтамабіль, — нібыта затрымалі чалавека, які граміў машыны. Высветлілася, што з машынай усё ў парадку, а самога Глеба старшы ўчастковы Варанішча вельмі жадае бачыць у Савецкім РУУСе.

— Мяне выманілі з хаты і прыгразілі затрыманнем, таму я паехаў добраахвотна. Я адмовіўся ад дачы паказанняў у РУУСе і заявіў, што прашу выдаць позву ў суд і не затрымліваць мяне праз неабходнасць даглядаць за маці-інвалідам (што, дарэчы, выключае магчымасць адміністрацыйнага арышту). Але мяне затрымалі.

Цягам некалькіх гадзінаў знаходжання ў РУУСе Глеб спрабаваў падаць скаргу на імя начальніка ўстановы з нагоды беспадстаўнага затрымання. Але на гэта афіцэры Русецкі і Шэін адказвалі, што падаць скаргу ён зможа толькі пазней у судзе.

— Потым па дарозе з РУУС у ЦІП мяне завезлі ў камітэт судэкспертызы на Някрасава і паспрабавалі паставіць на відэаўлік, каб занесці ў базу сістэмы аўтаматычнага распазнання твараў. Я стаў запытваць, на якой падставе гэта робіцца, і праз нейкі час спрэчак вырашылі, што «калі чалавек не хоча, тады не трэба».

Пасля Глеба Рубанава павезлі ў цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на вуліцы Акрэсціна. Паколькі прывезлі затрыманых туды ў абед, то сказалі, што на харчаванне ўсіх прывезеных з ім пастаўяць толькі на наступны дзень, такім чынам пакінуўшы ўсіх без ежы агулам больш чым на 24 гадзіны. Перадачу ад жонкі для яго таксама не прынялі. З гэтай нагоды Глеб напісаў скаргу, што, дарэчы, у ЦІП зрабіць не так проста. Каб падаць скаргу, вязень павінен пагрукацца ў акенца камеры і папрасіць у дзяжурнага аркуш паперы і асадку. І калі такая магчымасць будзе, то пісьмовыя прылады дадуць. Праз чатыры гадзіны патрабаванняў Глеб дамогся, каб яму прынеслі паперу. Асадку ўдалося атрымаць толькі пасля сустрэчы з адвакатам.

Нейкім цудам пасля гэтага ў камеры з'явілася «няўлічаная» ежа, аднак Глеб абвясціў галадоўку.

Падчас знаходжання ў зняволенні Глеб Рубанаў таксама напісаў скаргу на тое, што па яго матрацы поўзалі насякомыя.

Трэцяя скарга тычылася таго, што ў камеры знаходзіліся... цытаты Гітлера без выходных дадзеных. Некалі гэта былі кніжкі, але насельнікі камеры выкарыстоўвалі іх у якасці туалетнай паперы.

Паколькі да ночы з населеным насякомымі матрацам так нічога і не зрабілі, спаць на ім Глеб не змог.

— Я праінфармаваў пра гэта дзяжурнага і напісаў новую скаргу. На што дзяжурны адказаў «добра». А я адказаў яму, што гэта дрэнна, паколькі такое жорсткае абыходжанне мяжуе з катаваннямі. На што ў адказ я чую: «Гэта вы яшчэ не ведаеце, што такое катаванні», — і вечка камеры зачыняецца.

Гэтую скаргу да раніцы прымаць адмовіліся, Глебу ўдалося яе падаць толькі перад самым вывазам у суд Савецкага раёна Мінска.

Самае цікавае, што па прыездзе ў суд Глебу Рубанаву ўручылі позву з'явіцца на судовае пасяджэнне на 10 раніцы 16 траўня. Навошта было выцягваць чалавека ўначы з кватэры і 30 гадзін трымаць у зняволенні без усялякіх падстаў, паспрабуе высветліць адвакат на будучым пасяджэнні.

— Я лічу сваё затрыманне абсалютна беспадстаўным, таму што я працую дома, ні ад каго не хаваюся, і ніякіх позваў у суд мне не прыходзіла, — кажа Глеб Рубанаў. — Я не магу сказаць, што гэта было паляванне асабіста на мяне. Проста наша сістэма так працуе з-за лухты, якая саснілася ГУБАЗіКу. Мне вельмі шкада людзей, якія, працуючы ў гэтай сістэме, парушаюць правы нашых грамадзянаў, і зычу ім знайсці нармальную працу.

Нагадаем, 21 сакавіка ІТ-кансультанту Глебу Рубанаву патэлефанаваў чалавек, які прадставіўся ўчастковым, і паспрабаваў запрасіць на неадкладную размову з нагоды флэшмобу #яэкстрэміст.

На прапанову перанесці размову на больш зручны час участковы адказаў, што нібыта рашэнне трэба прыняць сёння, бо заканчваецца тэрмін праверкі па справе. Рубанаў ад сустрэчы адмовіўся. Па словах тэлефанаваўшага, справа, верагодна, будзе перададзеная ў суд.

Флэшмоб #яэкстрэміст распачаты ў сацыяльных сетках анархістам і журналістам Міколам Дзядком. Удзельнікі флэшмобу публікуюць у сацыяльных сетках фотаздымкі з матэрыяламі з Рэспубліканскага спісу экстрэмісцкіх матэрыялаў і хэштэгам #яэкстрэміст #яэкстремист.

# «Прымусу да інтэграцыі» — паўгода. Якія вынікі?

**« Працяг. Пачатак на на стар. 1**

Можа, з гэтай прычыны Лукашэнка не едзе ў Еўропу, хоць з 2017 года мае запрашэнні. Адмовіўся ляцець у Брусель (лістапад 2017-га), Парыж (лістапад 2018-га), Мюнхен (люты 2019-га), не прыняў запрашэнне наведаць Латвію і Аўстрыю.

Асабліва нядобрае ўражанне было ад адмовы Лукашэнкі ляцець на Мюнхенскую канферэнцыю па бяспецы. Там былі запланаваныя сустрэчы з канцлерам ФРГ Ангелай Меркель і генеральным сакратаром NATO Енсам Столтэнбергам. Кіраўнік Беларусі адмовіўся ад гэтай паездкі ў апошні момант, знаходзячыся ў Сочы на перамовах з прэзідэнтам Расіі. Таму замежныяназіральнікі зрабілі выснову, што «Пуцін не дазволіў».

Цяпер у Лукашэнкі ляжаць пяць запрашэнняў. Застаюцца на парадку дня візіты ў Латвію і Аўстрыю.

Кіраўніцтва ЕС запрасіла Лукашэнку, разам з пяццю прэзідэнтамі іншых краін-удзельніц праграмы «Усходняе Партнёрства» — Арменіяй, Азербайджанам, Грузіяй, Малдовай і Украінай, у Брусель на абед 13 траўня з нагоды дзясятай гадавіны гэтага праекту.

Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда запрасіў Лукашэнку ў Варшаву на ўрачыстыя мерапрыемствы ў гонар 80-й гадавіны пачатку Другой сусветнай вайны.

Літва збіраецца запрасіць на ўрачыстую цырымонію перапахавання парэшткаў Кастуся Каліноўскага і іншых паўстанцаў найвышэйшых службовых асобаў Беларусі, Польшчы і Украіны.

Калі беларускі лідар прыме хоць адно з апошніх запрашэнняў, то гэта будзе ў піку Маскве.

Паездка ў Брусель — сталіцу Еўропы, — адзін з сімвалаў Захаду, з якім Расія цяпер вядзе непрымірымую барацьбу.

Наведванне Варшавы на мерапрыемства, якое асацыюецца з агрэсіяй СССР супраць Польшчы ў 1939 годзе, віной Савецкага Саюза ў развязванні Другой сусветнай вайны (Уладзімір Пуцін туды запрашэння не атрымаў) таксама будзе хваравіта ўспрынятае ў Крамлі.

Днямі стала вядома, што ўдзел кіраўніка Беларусі ў мерапрыемствах, прысвечаных 10-годдзю «Усходняга партнёрства» ў Бруселі 13 траўня не плануецца. Беларусь там будзе прадстаўляць міністр замежных спраў Уладзімір Макей.

Такім чынам, апошняя паўгода Мінск глядзіць на Захад з большай аглядкай на Усход.

Шостая выснова: Захад больш выразна, чым раней, пачаў праводзіць палітыку адносна Беларусі з гледзішча геапалітыкі, у парадыгме супрацьстаяння Расіі. Мэта — падтрымаць імкненне беларускага рэжыму дыстанцыявацца ад РФ. Пытанне каштоўнасцяў у адносінах з Беларуссю (дэмакратыя, правы чалавека) адыходзіць на другі план, а часам увогуле знікае. ЗША і ЕС робяць стаўку на супрацоўніцтва з існым кіроўным рэжымам, а не з беларускімі дэмакратычнымі сіламі. Што ў пэўным сэнсе развязвае Лукашэнку рукі.

Сёмая: былы амбасадар Расіі Міхаіл Бабіч у адным сваім інтэрв'ю выказаў гіпотэзу, што Лукашэнка будзе праводзіць выбарчую кампанію ў вобразе абаронцы незалежнасці ад расійскай пагрозы. Аднак пакуль гэтая гіпотэза не спраўджваецца. Наадварот, увесь маштаб і вастрыню канфлікту з Расіяй беларускае кіраўніцтва імкнецца прыхаваць ад насельніцтва.

Напрыклад, у сваім нядаўнім выступе з пасланнем у Нацыянальным сходзе кіраўнік дзяржавы самую галоўную сённяшнюю палітычную праблему краіны — беларуска-расійскі канфлікт — фактычна праігнараваў. Думаю, ён не хоча падліваць алей у агонь, абстрагаць адносіны з Расіяй далей пэўнай мяжы. І пакуль імкнецца, каб гэтая праблема была вынесена на перыферыю грамадскай увагі.

# Мінчане дамагаюцца выключэння са спісаў «дармаедаў»

**Мінчане Ігар Якшэвіч і Юрый Грыневіч паўторна накіравалі звароты ў раённую адміністрацыю з патрабаваннем выключыць іх са спісу «дармаедаў».**

Два жыхары Мінска прайшлі аднолькавы шлях. У пачатку года абодва былі ўключаныя ў спісы незанятых у эканоміцы, абодва звярнуліся ў прафсаюз РЭП па юрыдычную дапамогу. Далей мінчукі дзейнічалі па адным алгарытме: накіравалі заявы ў адміністрацыю Маскоўскага раёна з просьбай выключыць са спісаў незанятых — і атрымалі адмову. Звароты ў суд таксама не далі вынікаў.

Канстытуцыйны суд адмовіў ім ва ўзбуджэнні вытворчасці па ліквідацыі прабелаў у заканадаўстве, у тым ліку — у дэкрэце №1.

— Характэрна, што два адказы падпісаныя начальнікам сакратарыята Канстытуцыйнага суда Селядзеўскім. Ігар Якшэвіч звяртаўся ў КС на рускай мове, а Юрый Грыневіч — па-беларуску. Адказы атрымалі на мове звароту, чаго не зрабілі ні адміністрацыя, ні суд Маскоўскага раёна, — для іх моўнае пытанне не існуе: усё справаводства вядзецца на рускай мове, — распавёў прававы інспектар прафсаюза Юрый Белякоў.

Па сутнасці справы, Ігар Якшэвіч і Юрый Грыневіч вярнуліся да пачатку: тэрмін абскарджвання судовага рашэння ўжо мінуў, таму працэдура пачынаецца па новым коле. Мінчане паўторна накіравалі заявы ў адміністрацыю Маскоўскага раёна аб выключэнні з базы «дармаедаў». У выпадку адмовы яны маюць намер звярнуцца ў суд і прайсці ўсе інстанцыі — аж да Вярхоўнага суда.

— У красавіку я ўладкаваўся ахоўнікам у ДТСААФ, таму, магчыма, мяне ўжо выкрасляць са спісаў «дармаедаў». Гэта, вядома, выключыць магчымасць далейшага абскарджання, — адзначае Юрый Грыневіч.

А вось Ігар Якшэвіч прынцыпова хоча давесці справу да суду:

— Я хачу дамагчыся аднаго: каб мяне выключылі з ганебных спісаў гультаёў. Я планую прайсці ўсе судовыя інстанцыі. Я працую, але не хачу, каб уварваліся ў маё прыватнае жыццё. Пасля першага звароту мне тэлефанавалі з камісіі па садзейнічанні занятасці: прывязіце дакументы, якія пацвярджаюць, што вы працуеце. Я адказаў, што нікому нічога не павязу: хочаце даказваць — даказвайце. Ёсць закон, вы лезеце ў маё прыватнае жыццё: я не хачу, каб нехта ведаў, дзе я працую. Я сябе перастану паважаць, калі панясу нейкія дакументы на камісію. Чаму яны патрабуюць, каб мы выконвалі закон, хоць самі яго не выконваюць? Таму мы з юрыстам хочам выцягнуць іх у суд: мне самому цікава, як дзяржаўныя органы будуць тлумачыць свае дзеянні, — распавёў Ігар Якшэвіч.

— Я падтрымліваю жаданне сябраў прафсаюза давесці пачатае да лагічнага фіналу — альбо да выключэння з базы «дармаедаў», альбо да поўнай адмовы ўсіх інстанцый. Ёсць характэрны факт — пасля звароту сумы ў «жыроўках» Ігара і Юрыя сталі цалкам адэкватнымі — такімі, як і ва ўсіх, — рэзюмаваў прававы інспектар РЭП Юры Белякоў.

**Паводле praca-by.info**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Баданні з Расіяй ды святочная вакханалія

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Стасункі Беларусі і Расіі — найлепшы серыял. То любяцца, то сварацца, то мірацца, то б'юцца — а вынік нікому не вядомы да самай апошняй серыі.**




Фота www.belarusfeed.com




Фота www.belprauda.org

Дзякуючым доўгім выходным, тыдзень прайшоў даволі ціха і мірна. Адны бавілі час на агародах, другія завіслі ў чэргах на мяжы з Літвой ды Польшчай, трэція аддавалі пашану памерлым сваякам на могілках, чацвёртыя ратаваліся ад дажджоў і холаду пад коўдрамі ды папівалі гарачую гарбату.

І толькі нястомнае КДБ, дбаючы пра дзяржаўныя справы, працягвала шукаць ворагаў. І знайшло — пад арышт адправілі трох грамадзян Расійскай Федэрацыі, якія падазраюцца ў дачы хабару. Навіна, падаецца, не топавая, калі б не факт, што днямі тое самае КДБ арыштавала кіраўніка «Белтэлекама» Сяргея Сівадзедава і намесніка дзяржаўнага сакратара Рады бяспекі Андрэя Уцюрына — і якраз за атрыманне хабараў ад расійскіх грамадзян. Зрэшты, пакуль КДБ не пракаментавала, ці звязаныя гэтыя эпізоды між сабой.

Праўда, што да Андрэя Уцюрына, дык многія лічаць: «атрыманне хабару» — гэта ўсяго толькі прыкрыццё сапраўдных прычын. Вядомы расійскі журналіст, кіраўнік «Эхо Москвы» Аляксей Венядзіктаў выказаў меркаванне, што Уцюрына, які з 1995 па 2007 год працаваў у Службе аховы Аляксандра Лукашэнкі, апошнія 7 гадоў з якіх — на пасадзе кіраўніка Службы бяспекі, арыштавалі паказальна. Мэта — прадэманстраваць Крамлю, што ўсе сувязі высокіх чыноўнікаў з Масквой трымаюць пад кантролем, што пра любыя іх рухі кіраўніку Беларусі добра вядома. Акрамя гэтага, арышт Уцюрына — гэта і сігнал беларускай палітычнай эліце. Маўляў, будзеце шушукацца з Масквой, тым больш напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, — сядзеце на нары побач з Уцюрыным, які б высокі статус ні займалі.

Нявырашаным застаецца і эканамічны канфлікт з Расіяй, выкліканы пастаўкамі няякаснай нафты і, як вынік, спыненнем транзіту нафты праз тэрыторыю Еўропы. Мазырскі НПЗ дагэтуль не прыступіў да апрацоўкі чыстай нафты, на прадпрыемстве працягваюць прамываць абсталяванне ад забруджванняў.

Тым часам Следчы камітэт Расіі заявіў, што вінаватыя ў псаванні нафты знойдзеныя — чацвёра з іх ужо арыштаваныя, а яшчэ двое ўцяклі. Гэта кіраўніцтва невялікіх расійскіх кампаній «Нафтаперавалка», «Петранафта» і «Магістраль». Паводле следчых, падазраваныя больш за паўгода кралі «чорнае золата», а пасля выраншылі схаваць нястачу, дадаўшы ў вузел зліву ў Волжскім раёне няякасную нафту. Версія даволі дзіўная — няўжо ў падазраваных не было іншых спосабаў схаваць знікненне нафты ўсяго на 15 тысяч долараў, як толькі праз блакіроўку трубаправода?

Эксперты кажуць, што кароткае спыненне транзіту нафты выгоднае Беларусі — маўляў, дадатковы інструмент ціску на Маскву. Але і Масква заўжды ведае, як можна адказаць на прэтэнзіі суседкі, — з 8 траўня Расельгаснагляд чаргова раз забараніў пастаўкі малака і малочнай прадукцыі з 37 беларускіх прадпрыемстваў і пастаўкі мяснай прадукцыі з 4 айчынных заводаў.

Зрэшты, і мы не абораю хлеб кроім — у Беларусі зноў не дазволілі правесці «Бессмяротны полк», што ўжо некалькі гадоў лабіруюць прарасійскія сілы. У Мінску, праўда, адбылася такая акцыя, але хутчэй «на адчапіся» — пасля ўсіх афіцыйных мерапрыемстваў удзельнікам акцыі дазволілі коратка прайсціся ад дамка РСДРП да манумента на Плошчы Перамогі. Аляксандр Лукашэнка раней даў дакладна зразумець, што ён катэгарычна супраць «Бессмяротнага палку» — маўляў, у нас ёсць уласная акцыя «Беларусь памятае». А насуперак меркаванню Лукашэнкі чыноўнікі нічога не будуць рабіць.

Што канкрэтна Беларусь і беларусы памятаюць пра падзеі Другой сусветнай вайны, шчыра кажучы, зразумець цяжка. Калі меркаваць па праграме святкаванняў, беларусы памятаюць, што падчас вайны людзі елі салдацкую кашу, насілі пілоткі і танчылі пад «Кацюшу». З усёй прапагандысцкай вакханаліі выдзяляецца феміністычная акцыя «Беларускага саюзу жанчын». У межах праекта «Беларусь памятае. Жаночы твар перамогі» ўдзельніцы саюза высадзілі алею плакучых вербаў побач з Курганам Славы ў гонар жанчын-ветэранаў.

Агулам танальнасць дзяржаўных святкаванняў застаецца ўсё той жа — славім перамożцаў ды нясем праз пакаленні памяць пра народны подзвіг. Сенатарка Мар'яна Шчоткіна дагаварылася наогул да таго, што «трэба рабіць усё, каб вайна не стала далёкім мінулым». Чым жа ёй стаць — сучаснасцю, будучыняй?

У сваёй віншавальнай прамове Аляксандр Лукашэнка традыцыйна сказаў пра «святую дату», «гераізм», «самаахвярнасць працаўнікоў тылу», «прыклад стойкасці ды патрыятызму» ды іншыя ўсім вядомыя пафасныя фразы. Нездарма беларускі бок не прыняў удзелу ў адзначэнні Дня памяці і прымірэння, якое прайшло ў Мінску па ініцыятыве ўкраінскага пасольства напярэдадні 9 траўня, — гэта не ўкладваецца ў канцэпт усеагульнага свята: з кім мірыцца, калі мы ўсіх перамаглі? Аднак ёсць і пэўная рацыя ў словах усіх гэтых чыноўнікаў — пакуль жывыя ветэраны, падзеі вайны не забудуцца. Пакуль жывыя тыя, хто памятае гэтае пекла, — паўп'яная гоп-ля-ля пад «Кацюшу» ля сцэны ў раённым парку заўжды будуць выглядаць абразліва.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Аўтуховіч



**Былы палітвязень праз сацыяльныя сеткі выставіў Аляксандру Лукашэнку ўльтыматум. Ён патрабуе ад кіраўніка краіны сысці ў адстаўку на працягу 30 дзён.**

«Вы завялі краіну ў эканамічны і палітычны тупік, пазбавілі людзей надзеі на лепшую будучыню. Апорай вашай улады з'яўляюцца беззаконне, хлусня і страх. Вы скрывілі і практычна знішчылі інстытуты дзяржаўнай улады, у тым ліку і інстытут выбараў, давялі да мяжы знікнення Рэспубліку Беларусь як суб'ект міжнароднага права. Вашы злачынныя дзеянні прывялі нашу краіну да страты эканамічнай незалежнасці і да рэальнай пагрозы страты незалежнасці палітычнай. «Пасланне» да народа і парламента ў чарговы раз пацвердзіла, што з такой уладай у нас няма будучыні», — напісаў Аўтуховіч.

«Я прымаю цяжкае, але ўзважанае рашэнне ўзяць на сябе адказнасць за будучыя падзеі, планаваннем і падрыхтоўкай якіх я займаўся доўгія гады ў няволі і апошнія гады пасля вызвалення», — піша Аўтуховіч.

Ён патрабуе прызнаць «праўдзівыя вынікі 25-гадовага кіравання», вярнуць у бюджэт краіны ўсё сродкі, якія на незаконных схемах выведзеныя з краіны або прысвоеныя «сямейным бізнесам», вызваліць усіх палітвязняў і вязняў сумлення.

«У выпадку, калі рэжым стане дзейнічаць ранейшымі гвалтоўнымі метадамі, пакідаю за сабой права раней 30-дзённага тэрміну запусціць механізм аднаўлення справядлівасці», — напісаў Аўтуховіч.

## Генадзь Фядыніч



**Крымінальна-выканаўчая інспекцыя Цэнтральнага РУУС Мінска змяніла рэжым «хатняй хіміі» для лідара прафсаюза РЭП. Звязана гэта, у тым ліку, з працоўным заканадаўствам.**

«Мне ўстаноўлены новы час наведвання арганізацый аховы здароўя, устаноў сувязі, гандлю, бытавога абслугоўвання, фінансавых і іншых арганізацый у будні — з 18.00 да 20.00. Папярэдняе прадпісанне выканаўчай інспекцыі наведваць гэтыя ўстановы з 12 да 14 гадзін парушала Працоўны кодэкс, бо з 13 да 14 у мяне абедзенны перапынак. Я не мог застацца на працы пасля 18 гадзін і прымаць людзей. Цяпер такая магчымасць з'явілася», — падкрэсліў Фядыніч.

Забарона на выхад з дому зменшаная — лідару прафсаюзу нельга выходзіць з дому з 21 гадзіны да 6 гадзін раніцы (да гэтага прадпісвалася знаходзіцца ў кватэры з 19 гадзін да 6 гадзін раніцы).

Таксама ў сіле пакінутая забарона выхаду з кватэры ў суботу, нядзелю, у выходныя і святочныя дні. Як кажа Фядыніч, застаюцца адкрытымі пытанні пра наведванне царквы і магчымасці займацца гаспадарчымі працамі. Дазволу на гэта ён таксама будзе дамагацца.

## Сяргей Варывода



**Як і казалі праваабаронцы, пастанова Саўміну №49, што тычыцца аплаты паслуг міліцыі на масавых акцыях, закранула не толькі «палітыку».**

Кіраўнік ультрамарафона «Мінская сотка» Сяргей Варывода заявіў пра яго адмену праз тую самую пастанову №49.

Ультрамарафон «Мінская сотка» быў заснаваны ў 2016 годзе па ініцыятыве ўдзельнікаў альпінісцкага клуба «Сем вяршыняў». Яго ўдзельнікам прапаноўвалася пераадолець сотню кіламетраў у рэжыме «нон-стоп». «Мінская сотка» — адзіны ў краіне марафон, які стартаваў уначы.

«Нашы класічныя маршруты на 25, 50, 75 і 100 кіламетраў цяпер будуць чакаць лепшых часоў. Ультрамарафон і раней быў для яго арганізатараў справай стратнай, а пасля ўвядзення абавязковых плацяжоў для арганізатараў масавых мерапрыемстваў стаў справай проста бессэнсоўнай…Да апошняга была надзея, што ўрад, які арганізатары рознага роду спартыўна-масавых, культурна-масавых і іншых мерапрыемстваў проста завалілі зваротамі, адумаецца і ўнясе папраўкі ў дакумент, які быў прыняты кулуарна, без абмеркавання», — піша Варывода. «Асабіста ў мяне рука не падымаецца павялічыць унёскі на мерапрыемства яшчэ на 50 рублёў з удзельніка або дастаць з кішэні 5738 рублёў для аплаты паслуг толькі органаў аховы правапарадку. За гэтыя грошы паезджу пару гадоў па замежных мерапрыемствах», — піша Варывода.

**Азбука паліталогіі**



Сяргей НІКАЛЮК

# Беларускі варыянт міфа пра Ахілеса і чарапаху

**Міф пра зборачны цэх СССР адарваўся ад рэальнасці, жыве цяпер у віртуальнай прасторы ды падсілкоўваецца намаганнямі дзяржаўнай прапаганды.**

«Усё цячэ, усё змяняецца». Аўтарства гэтага выказвання прыпісваюць старажытнагрэчаскаму філосафу Гераклiту (каля 554–483 да н. э.), аднак мы лёгка можам знайсці яго паслядоўнікаў сярод родных бяроз і асін. Да прыкладу, у снежні 2009 года адзіны палітык (АП) надаў сярэдняй зарплаце сакральны статус. Ён паставіў перад урадам задачу цаной «крыві з носу» выйсці на «святую лічбу» (500 у доларавым эквіваленце) да канца 2010 года.

Але ўсё цячэ, усё змяняецца. 19 красавіка ў Пасланні–2019 тое, што на працягу дзесяці гадоў афіцыйна лічылася святым, было паніжана да будзённага: «Мы павінны стварыць людзям мінімальна нармальныя ўмовы для жыцця. А гэта перш за ўсё тыя «няшчасныя» 500 долараў».

Тут напрошваецца яшчэ адна паралель, навеяная рэшткамі школьных ведаў з антычнай гісторыі і міфалогіі. Магчыма, чытач ужо здагадаўся, што гаворка ідзе пра Ахілеса і чарапаху. Хутканогі герой не ў стане дагнаць чарапаху, бо за час, які ён марнуе на пераадоленне першапачатковай адлегласці, што аддзяляе яго ад прадстаўніка атрада паўзуноў, гэты ціхаходны прадстаўнік паспявае прапаўзці пэўную адлегласць.

З заробкам у доларавым эквіваленце ўжо дзесяцігоддзе назіраецца аналагічная гісторыя. Налічаны ў рублях заробак упэўнена расце, але гэтак жа ўпэўнена зніжаецца курс беларускага рубля. Звернемся да сакавіцкай статыстыкі. Сярэдні заробак за першы вясновы месяц склаў 1056,9 рубля, што з улікам курсу на канец месяца (2,1285 BYN / USD) адпавядала 497 доларам.

Не хапіла нейкіх 3 долараў да «няшчасных» 500. Але не хапіла. Такім чынам, узяты ўладай дзесяць гадоў таму абавязак і цяпер застаецца не дасягнутым.

Урад разлічвае, што сярэдні заробак у 2019 годзе перавысіць 1000 рублёў. Упэўнены, што так яно і будзе. Але якім будзе на той час яго доларавы эквівалент? Гэтага не ведае ніхто, бо прадказваць курс беларускага рубля смяротным не дадзена. А таму гонка беларускага Ахілеса і беларускай жа чарапахі, хутчэй за ўсё, працягнецца.

### Флагманы прыспускаюць сцягі

Айчынны варыянт старажытнагрэчаскага міфа пры жаданні можна выкарыстоўваць у якасці ілюстрацыі стану «беларускай мадэлі» на сучасным этапе яе развіцця. Але калі мы кажам пра развіццё, неабходна памятаць, што яно бывае як са знакам «+», так і са знакам «–». У другім выпадку правільней казаць не пра развіццё, а пра дэградацыю.

Ці ўсведамляюць на верхнім узроўні ўладнай «вертыкалі» сапраўдны стан «беларускай мадэлі»?

Мяркуючы па Пасланні–2019, з адэкватным успрыманнем рэальнасці існуюць пэўныя праблемы.

«Беларуская эканоміка, — пераконваў 19 красавіка дэпутатаў і народ АП, — і надалей працягне будавацца на аснове развіцця буйных прадпрыемстваў і вытворчасцяў. Гэта наш бясспрэчны прыярытэт».

Наколькі такое вызначэнне прыярытэтаў пацвярджаецца афіцыйнай статыстыкай? Для адказу на гэтае пытанне звернемся да раздзелу «Структура валавога ўнутранага прадукту па відах эканамічнай дзейнасці» на сайце Белстата. У 2009 годзе ўклад апрацоўчай прамысловасці ў ВУП склаў 22,5%, а ў 2017 годзе — 21,6%. Досыць сціпла, калі параўнаць з укладам у ВУП сектара паслуг: у 2009 годзе — 42,2%, 2017-м — 47,7%.

Беларуская эканоміка даўно ўжо стала эканомікай паслугаў, а не эканомікай прамысловай вытворчасці, што адпавядае сусветнай тэндэнцыі. Аднак з вокнаў Палаца Незалежнасці змены, што адбыліся ў структуры эканамічнага складніку «беларускай мадэлі», разглядзець не атрымліваецца.

Што тут можна параіць? Адказ на гэтае пытанне ўтрымліваецца ў звароце АП да Савета Міністраў: «Трэба ўсім нам апусціцца на зямлю і быць бліжэй да людзей. Я часта кажу: калі не ведаеш, што рабіць, ідзі да людзей — яны табе падкажуць і дапамогуць».

**ДЫНАМІКА ВЫПУСКУ ПРАДУКЦЫІ ФЛАГМАНАМІ БЕЛАРУСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ (ТЫСЯЧ ШТУК)**

| Прадукцыя | 2008 | 2017 | Змяненні* |
|---|---|---|---|
| Трактары | 69,2 | 40,8 | – 41 |
| Грузавыя аўтамабілі | 24,4 | 6,4 | – 74 |
| Самазвалы кар'ерныя (шт.) | 1887 | 1097 | – 42 |
| Халадзільнікі і маразільнікі | 1106 | 857,9 | – 22 |
| Тэлевізары | 717 | 597 | – 18 |

* У працэнтах




У Пасланні–2019 прадукцыі МТЗ, МАЗ і БЕЛАЗ быў нададзены статус нацыянальнага здабытку. Дададзім да пералічаных прадпрыемстваў «Атлант» і «Гарызонт» з «Віцязем» — і з дапамогай табліцы ацэнім дынаміку развіцця/дэградацыі нацыянальнага здабытку за дзесяць гадоў.

### Пра поўную тэхналогію ўтрымання дойнага статку

Прапаную прайсціся далей па тэксце Паслання–2019: «Па кожным кірунку неабходныя праекты будучыні, якія адпавядаюць лепшым сусветным тэндэнцыям. Новыя вытворчасці і тэхналогіі, а значыць — тавары. Пры гэтым неабходна думаць не пра тое, колькі мы здольныя вырабіць, а пра тое, куды і колькі зможам прадаць».

Для разумення ўсёй глыбіні прыведзенай цытаты нам давядзецца звярнуцца да паняцця «мадэрнізацыя, якая даганяе». У XVII–XVIII стагоддзях пратэстанцкія краіны Паўночнай Еўропы з нерухомасці сярэднявечнага ўкладу жыцця здолелі перайсці ў рэжым паскоранага і бесперапыннага развіцця. Гэты працэс і сталі называць мадэрнізацыяй. Хто не паспеў, той спазніўся — і неўзабаве сутыкнуўся з неабходнасцю даганяць.

Мадэрнізацыя, якая даганяе, — гэта мадэрнізацыя міжволі, гэта адказ лузераў на выклік Захаду, што пайшоў у адрыў, і праводзілася яна не «знізу» сіламі трэцяга саслоўя, а «зверху», згодна з дзяржаўнай разнарадкай.

Ці ёсць у АП і ўрада хоць нейкі шанец абраць праекты будучыні, якія б адпавядалі лепшым сусветным тэндэнцыям? Думаю, што мінімальны. Звярніце ўвагу, гаворка ідзе выключна пра новыя вытворчасці і тэхналогіі. Гэта традыцыя. Яна фармавалася стагоддзямі ў савецкі і дасавецкі час.

Пераймаючы тэхналогіі, улада аднaчасова рабіла гераічныя намаганні, каб адгарадзіць насельніцтва ад культурных дасягненняў Захаду, прадуктам якіх тыя тэхналогіі і з'яўляліся. Вынік такога аднабокага асваення праектаў будучыні быў прадэманстраваны на прыкладзе аб***ай каровы на ферме аграхолдынгу «Купалаўскі».

Нагадаю чытачам, што ініцыятарам мадэрнізацыі малочнай вытворчасці ў Беларусі ў 2012 годзе выступіў асабіста АП: «Я паставіў задачу пераўтварыць малочнатаварныя фермы ў малочнатаварныя комплексы. Адрозненне вы ведаеце: гэта захаванне поўнай тэхналогіі ўтрымання дойнага статку. Штучнае асемяненне, цэх сухастою, цэх раздою, цэх вытворчасці малака, сістэма водапаення, навозавыдалення, кармленне жывёлы — усё павінна быць па тэхналогіі! Вось што я ад вас хацеў! І даручыў у кожнай гаспадарцы ўзяць любую непрыдатную ферму і пераўтварыць у малочна-таварны комплекс».

Нічога не магу сказаць наконт штучнага асемянення, але навозавыдаленню як элементу тэхналогіі поўнага цыклу ўтрымання дойнага статку спецыялісты агрохолдынгу «Купалаўскі» не далі рады, пра што і распавёў гораду і свету тэлеканал АНТ 26 сакавіка.

### Пра мух і катлеты

Мадэрнізацыі, якія даганяюць, што дыктуюцца знешнімі выклікамі, заўсёды натыкаюцца на дэфіцыт асобасных рэсурсаў. Гэты дэфіцыт дзяржава спрабуе кампенсаваць «вельмі жорсткай дыктатурай тэхналогій і вытворчай дысцыпліны». Пасланне–2019 гэту болевую кропку «беларускай мадэлі», натуральна, не абышло. Цытую: «Ніякай дэмакратыі і балбатні! На гэта павінны быць мабілізаваныя ўсе, пачынаючы ад кіраўніка гаспадаркі, спецыялістаў і заканчваючы нашай міліцыяй. Кажу пра гэта адкрыта. Яны там не справяцца з тымі праблемамі, якія сёння існуюць у вёсцы».

Парадак на ферме без міліцыі — дэмакратыя і балбатня. Гэта можа падацца дзіўным, але іншая форма парадку на зямлі АП добра вядомая. Не выпадкова ж ён прывёў прыклад з фермерамі, якія пастаянна просяць у яго зямлю, але адмаўляюцца ад сельгаспрадпрыемстваў, фермаў і збожжатокаў. А самае галоўнае — адмаўляюцца ад сацыяльнай нагрузкі ў выглядзе вёсак з людзьмі.

У выніку аб'яднаць у межах «беларускай мадэлі» эфектыўную вытворчасць і моцную сацыяльную палітыку не атрымліваецца. Між тым, рэцэпт такога аб'яднання даўно ні для каго не з'яўляецца таямніцай — і палягае ён у аддзяленні мух ад катлет. Кожны павінен займацца сваёй справай: бізнес — вытворчасцю, дзяржава — сацыяльнай палітыкай на грошы, якія пералічваюцца бізнесам у выглядзе падаткаў.

Аднак для дзяржавы, якой «ёсць справа да ўсяго», такі падзел непрымальны. Тут, як і ў выпадку з крыжамі ў Курапатах, яна адчуе сябе чужой на свяце жыцця, бо любая праява грамадзянскай самастойнасці ўспрымаецца як пагроза. Аднак менавіта грамадзянская актыўнасць і дазволіла пратэстанцкім краінам Паўночнай Еўропы вырваца ў XVII–XVIII стагоддзях з застою Сярэднявечча.

# Ігар Кузняцоў: За апошнія 25 гадоў такой арганізаванай кампаніі супраць Курапатаў я не бачыў

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Пасля «вялікай размовы» Лукашэнкі 4 красавіка ў Курапатах пачалі зносіць крыжы, затым улады ўзяліся за «добраўпарадкаванне» Народнага мемарыялу. Усё гэта суправаджаецца шматлікімі маніпуляцыямі адносна версій і колькасці знішчаных тут людзей. Многія з выказванняў, у тым ліку ў афіцыйных СМІ, пераступаюць не толькі маральныя, але і законныя межы. Гісторык, даследчык савецкіх рэпрэсій 1930–1950-х гадоў Ігар Кузняцоў падзяліўся з «Новым Часам» сваім меркаваннем пра чарговы наступ на Курапаты.**




Ігару Кузняцову не раз даводзілася сутыкацца з абвінавачваннямі ў фальсіфікацыях звестак па рэпрэсіях у Беларусі, і нават адстойваць свае гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю ў судзе. Але справа ў тым, што ўсе нападкі на дыпламаванага спецыяліста сыходзілі ад людзей, абсалютна



не дасведчаных не тое што ў тэме рэпрэсій, але і ў гісторыі ўвогуле. Вось і 17 красавіка на сайце «Советской Белоруссии» быў апублікаваны артыкул Андрэя Мукавозчыка «Лжэгісторыкі». Аўтар паставіў пад сумнеў прафпрыдатнасць даследчыкаў сталінскіх рэпрэсій, якія агучваюць альтэрнатыўную дзяржаўнай версію расстрэлаў у Курапатах. Адметна, што пасля таго, як Ігар Кузняцоў звярнуўся ў рэдакцыю з патрабаваннем абвяржэння, артыкул з сайту «СБ» знік.

## Хронікі інфармацыйнай вайны

Аднак інфармацыйная вайна вакол Курапатаў пачалася не з артыкула Мукавозчыка, а значна раней, з моманту адкрыцця Нацыянальнага некропалю. Галоўным ініцыятарам спрэчак вакол яго як у 1988 годзе, так і цяпер, выступае Камуністычная партыя, кажа Ігар Кузняцоў. У 1990 годзе яе прадстаўнікі звярнуліся ў Генпракуратуру СССР для вывучэння злачынстваў, здзейсненых ва ўрочышчы. Аднак камісія з Генпракуратуры не знайшла нічога, што сведчыла б пра забойствы часоў вайны. Тады ж у «Народнай газеце» выйшла публікацыя, у якой сцвярджалася, што рэпрэсіі ў СССР былі законнымі.

Потым на некалькі гадоў спекуляцыі вакол злачынстваў на ўскраіне Мінска сціхлі, і аднавіліся ўжо з прыходам да ўлады Лукашэнкі. У 1995 годзе старшы следчы па асабліва важных справах Генпракуратуры Валерый Камароўскі перапраўляе ўсе звязаныя з Курапатамі дакументы, бо зноў ўсплыла версія, што тут падчас вайны нацысты расстрэльвалі гамбургскіх яўрэяў. Аднак яна не пацвердзілася.

Але камуністы ўсё ніяк не супакойваліся, і ў 1996 годзе звярнуліся наўпрост да кіраўніка дзяржавы, што, маўляў, апазіцыя зноў фальсіфікуе гістарычныя факты, звязаныя з расстрэламі ў Курапатах. Праз год распачалося новае следства, якое даручылі ўжо ваеннай пракуратуры, і вёў яго падпалкоўнік юстыцыі, старшы следчы па асабліва важных справах Віктар Сомаў. Зноў прапрацоўвалася версія нямецкага следу. Галоўным доказам на яе карысць служылі знойдзеныя ў Курапатах стрэляныя гільзы ад нямецкіх пісталетаў — «Вальтэра» і «Браўнінга».

Аднак дакументы, якія сустракаў у Нацыянальным архіве Беларусі Ігар Кузняцоў, сведчаць пра тое, што гэтая зброя была штатнай у савецкім НКУС. Да таго ж у той час паралельна ішло даследаванне катынскіх расстрэлаў. У яго матэрыялах ёсць паказанні, што чэкісты выкарыстоўвалі пісталеты сістэмы «Вальтэр», бо «Наганы» не вытрымлівалі нагрузкі пры масавых расстрэлах, калі за ноч трэба было забіць 200–250 чалавек.

Падчас гэтага следства правялі эксгумацыю самага вялікага пахавання ў Курапатах, дзе знайшлі парэшткі 373 чалавек, і ўстанавілі імёны двух афіцыйна вядомых сёння расстраляных — Мойшэ Крамера і Мардыхая Шулькеса, якія ў чэрвені 1940-га года ўтрымліваліся ў гродзенскай турме. Ініцыятараў расследавання — прадстаўнікоў кампартыі — запрашалі прысутнічаць пры эксгумацыі, але яны запэўнівалі, што давяраюць ваеннай пракуратуры, і адмаўляліся прыходзіць.

Але неўзабаве газета «Славянский набат» апублікавала вялікі артыкул па расследаванні ў Курапатах, дзе раскрывала матэрыялы следства, нягледзячы на падпіску аб неразгалошванні. У гэтым матэрыяле выказваўся недавер да ваеннай пракуратуры і зноў мусіравалася тэма нацысцкіх расстрэлаў, хаця падчас расследавання ніводнага рэчавага доказу, старэйшага за 1940 год, знойдзена не было.

Тым не менш, калі ў 1998 годзе следства завяршылася, па тэлебачанні выйшаў дакументальны фільм, у якім зноў прасоўвалі версію ваенных забойстваў у Курапатах. На працягу наступных некалькіх гадоў гэтую гіпотэзу працягвалі тыражаваць хіба што ў друку і на сайце кампартыі.

## Дзяржава прызнала Курапаты. Ці не?

Чарговае абвастрэнне адбылося ў 2017 годзе. На сайце кампартыі Беларусі з'явіўся артыкул на тэму Курапатаў, які стаў нагодай для позвы Ігара Кузняцова ў суд. Гэта была ўжо другая «курапацкая» судовая кампанія гісторыка па абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі (у 1997 годзе ён падаваў пазоў з нагоды публікацыі ў «Народнай газеце»). Аднак абодва суды скончыліся аднолькава: справу вывелі з судовага разгляду, паколькі палічылі яе навуковай спрэчкай.

Пасля гэтага, у лютым 2017 года, адбыўся круглы стол у «Советской Белоруссии», на якім першы намеснік старшыні КДБ генерал-маёр Ігар Сергяенка пацвердзіў, што ў Курапатах расстрэльваў НКУС. Тады ж з ініцыятывы тагачаснага рэдактара «СБ» Паўла Якубовіча была створана грамадская камісія па Курапатах, у якую ўвайшлі ў тым ліку Ігар Кузняцоў, Ганна Шапуцька і Алесь Чахольскі. Праўда, апошняе яе пасяджэнне адбылося ў красавіку 2017 года. У гэты ж час адбыўся конкурс на праект дзяржаўнага помніка ў мемарыяле, аднак прадстаўнікоў грамадскасці з ім ніхто не азнаёміў.

Адметна, што першапачатковая надпіс аб прысвячэнні ахвярам палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў на помніку не быў прадугледжаны. Але літаральна за некалькі тыдняў удалося дамагчыся, каб ён з'явіўся на дзяржаўным мемарыяльным знаку. Акрамя надпісу па-беларуску, па рэкамендацыі мастацкай рады, вырабілі шыльды на польскай, рускай мовах і на ідышы. Яны ўжо выраблены, але пакуль не ўсталяваныя.

Але пасля ўсталявання дзяржаўнага помніка пачаўся новы наступ на Курапаты, які суправаджаўся вандалізмам: на самім знаку нехта надрапаў зоркі Давіда, з другой спробы была разбітая «лава Клінтана», быў размаляваны камень, усталяваны ў памяць аб забітых яўрэях. Былі ўзбуджаныя дзве крымінальныя справы па фактах вандалізму на тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці, але ніякай інфармацыі аб іх ходзе няма.

Потым да інфармацыйных нападак кампартыі на фоне выказванняў Лукашэнкі падчас «вялікай размовы» далучылася «СБ» з ужо згаданым артыкулам Мукавозчыка. А днямі яшчэ і дэпутат Палаты прадстаўнікоў Ігар Марзалюк заявіў, што ў Беларусі ў часы рэпрэсій было расстраляна не больш за 30 тысяч, а ў Мінску — 7,5 тысячы чалавек. Па словах Кузняцова, Марзалюк, які спецыялізуецца на перыядзе XVII стагоддзя, проста не мае права выказвацца пра Курапаты, паколькі не з'яўляецца спецыялістам у гэтай тэме.

Але ўзнікае пытанне: калі ўлады ўсё яшчэ маюць сумневы адносна расстрэлаў у Курапатах, каму тады яны паставілі помнік (які, дарэчы, афіцыйна так і не быў адкрыты)? Для чаго афіцыйная газета ў свой час ініцыявала круглы стол, калі цяпер палівае брудам тых, хто спрабуе дакапацца да праўды пра расстрэлы ва ўрочышчы?

## Каму выгадныя спекуляцыі на тэме рэпрэсій?

На думку Ігара Кузняцова, цяпер ідзе кампанія, накіраваная на замацаванне ў грамадскай свядомасці заніжаных лічбаў забітых у Курапатах.

Колькасць ахвяр у 7,5 тысячы ўзнікла пасля першых эксгумацый у 1988 годзе, аднак яна недакладная, паколькі тады было даследавана да 20 пахаванняў. А ўсяго ў Курапатах — 510 магільных западзін, хоць, вядома, не ўсе яны могуць быць пахаваннямі. Тым не менш, мапа пахаванняў даходзіць аж да Зялёнага Лугу — то-бок, МКАД адназначна прайшла па костках і разбурыла частку магіл. Да таго ж па самай Галгофе правялі газаправод. Можна меркаваць, што падчас пракладкі гэтых трасаў было знішчана не менш за 150–200 пахаванняў. Плюс зусім не даследаваны лес за Заслаўскай шашой, таму што за адведзены на вывучэнне месяц зрабіць гэта было проста немагчыма.

Таму лічбу ў 7,5 тысячы забітых у Курапатах можна прымаць у якасці мінімальнай, але ніяк не поўнай. Зрэшты, незразумела, чаму прадзяржаўныя структуры так актыўна прасоўваюць менавіта яе — хіба меншая колькасць ахвяр змякчае злачынствы? Дарэчы, таму, што гэта было менавіта злачынства сталінізму, ёсць яшчэ адзін ускосны доказ. У сярэдзіне 1990-х гадоў намеснік начальніка КДБ па Мінску і Мінскай вобласці Андрэеў у адным інтэрв'ю заявіў, што рэпрэсіі не абмінулі і яго сям'ю: ён вывучаў дакументы і ўстанавіў, што яго дзед быў расстраляны ў Курапатах.

Што да лічбы ў 30 тысяч расстраляных у Беларусі, яе ў 1994 годзе ў сваёй кнізе агучыў гісторык і дзяржаўны дзеяч Уладзімір Адамушка. Паводле яго, было расстраляна больш за 28 тысяч чалавек. Аднак іншы гісторык, Алег Іоў, які ўдзельнічаў у раскопках у Курапатах разам з Зянонам Пазьняком і Міколам Крывальцэвічам, кажа, што толькі ва ўрочышчы было расстраляна 30 тысяч чалавек. З гэтай колькасцю Ігар Кузняцоў таксама не згодны. Паводле яго падлікаў, заснаваных на вывучэнні афіцыйных і неафіцыйных крыніц, ёмістасць пахаванняў у Курапатах можа дасягаць 95–100 тысяч чалавек.

А адкрывальнік урочышча Зянон Пазьняк увогуле мяркуе, што лік можа сягаць 250–300 тысяч ахвяр. У любым выпадку, пра лічбы можна спрачацца, яшчэ лепш — іх даследаваць, але ўсе спрэчкі могуць праходзіць у межах навуковай дыскусіі, але ніяк не ў прамых асабістых абразах, як тое робяць асобна ўзятыя прадстаўнікі камуністычнай партыі ці журналісты. «За апошнія 25 гадоў такой арганізаванай кампаніі супраць Курапатаў я не сустракаў», — прызнаецца Ігар Кузняцоў.

Здавалася б, калі ўжо немагчыма даследаваць матэрыяльныя сведчанні, паколькі частка з іх проста знішчана, самім уладам было б выгадна адкрыць доступ да ведамасных архіваў. Гэта б дазволіла запоўніць прабелы і спыніць спекуляцыі на тэме Курапатаў. Для тых, хто не ведае: грамадскасць не раз звярталася да ўладаў з патрабаваннем рассакрэціць дакументы па рэпрэсіях, але атрымлівала адмовы.

На круглым стале «СБ», прысвечаным мемарыялізацыі Курапатаў, Ігар Кузняцоў асабіста прапанаваў стварыць працоўную групу па вывучэнні расстрэлаў у Курапатах, куды б увайшлі прадстаўнікі КДБ і гісторыкі. Але ні становучага, ні адмоўнага адказу не атрымаў. Усё гэта падводзіць да думак, што маніпуляцыі версіямі і лічбамі вакол Народнага мемарыялу ўладзе выгадныя. Альбо яны хаваюць ад народа нешта настолькі страшнае, што адкрыццё архіваў выкліча як мінімум рэвалюцыю на асобна ўзятым астраўку стабільнасці, а як максімум — канец свету?..



Выхавальнікі дзіцячага дома ў Крывічах. Крайняя справа — удзельніца партызанскага руху Н.Сталярова. 1949 г.



# Вайна і дзеці

## «Мама ўсё зразумела і кінулася на двор. Яна на каленях прасіла паліцаяў нам даравадь...»

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Дзеці вайны — адносна новы і не вельмі дакладны выраз, якім азначаюць людзей, чыё нараджэнне прыпала на перыяд ад канца 1920-х да 1945-га. На пачатку вайны гэтым дзецям было ад пятнаццаці і менш, яны раздзялілі з бацькамі (а часцей з мацяркамі) усе нягоды і цяжкасці ліхалецця. Пераносілі голад і холад дома, угон на чужыну, уцёкі на балоты, жыццё ў зямлянках. А яшчэ яны бачылі смерць — чужых і блізкіх, глядзелі ёй у вочы, уцякалі ад кашчавай слабымі нажуткамі, учапіўшыся за руку дарослага.**

### Ніна і Дзіма

Асірацелыя дзеці бадзяліся па вёсках і лясах. «Ішлі мы з мамай па лесе, чуем плач. Падыходзім і глядзім. А пад елкай два хлопчыкі, гадоў шасці і дзевяці. Яны спалі, аднак беспярапынна круціліся ад холаду і праз сон енчылі, як зайчаняты... Брацікаў адправілі за лінію фронту» (Ніна Сталярова, атрад Мядзведзева).

Ніна трапіла ў бягомльскі атрад разам з маці і зводным братам. На вуліцы Праваднай, дзе яны жылі, Дзіма паўдзельнічаў у дыверсіі: з нямецкага грузавіка падлеткі знеслі і закінулі ў сажалку зброю. Знаёмы падпольшчык папярэдзіў: вам трэба сыходзіць з горада.

Так яны аказаліся на радзіме бабулі. Дзіма не толькі выведаў, дзе знаходзіцца атрад, але і вадзіў у лес жадаючых. Туды ў хуткім часе выправіліся і бежанцы з Мінска. Маці загінула праз тры месяцы, калі пайшла з групай на заданне. «Дзімка-невідзімка» (так празвалі брата) ваяваў у атраднай разведцы. Бывала, шынялёк кулі прадзіравяць, а цела не зачэпяць. Меў свайго коніка і даваў сястры пакатацца. Яна адпрошвалася ў камандзіра, як у бацькі: «Можна я пайду да брата пакатацца?»

Гледзячы на іншых, дзяўчынка пераймала паводзіны і антураж дарослых, мела свой карабінчык і гранату-лімонку на поясе. Не для ворагаў — для сябе, на выпадак, калі схопяць. Гэткая Маленькая Разбойніца!

Двойчы яе выпраўлялі на заданне. Пазней восенню хадзіла ў Мінск, каб знайсці «дзядзю Жоржа» з іх вуліцы (вядомы падпольшчык Георгій Кулікоў. — Г.К). Адсырэлі батарэйкі, перарвалася сувязь з Цэнтрам. Шыфр Ніна вывучыла на памяць, яшчэ вярнуцца не паспела, а атрад ужо атрымаў дапамогу з самалёта.

Ніна прайшла з братам пекла на Паліку, скончыла педвучылішча ў Паставах. Яна ўсё жыццё працавала ў Магілёве, дзе атрымала званне заслужанай настаўніцы Беларусі.

### Віця і Міша

Успамінае ліхалецце яшчэ адна настаўніца — Ніна Аляксандраўна Моўчан, што жыве ў Калачах (Лагойскі раён). Яна — ураджэнка Слабады і сваячка вялікай сям'і Гілевічаў.

«Пры небяспецы беглі на балота. Маме сваякі пакінулі малога пляменніка, ён быў слабы і ўвесь час плакаў. Для мамы і яго спецыяльна зрабілі будан з краю балота, астатнія пабеглі ўглыб. Майго брата Віцю абклалі мохам і загадалі: «Калі на цябе наступяць — маўчы!» А ён не вытрымаў, ускапіўся і пабег за ўсімі. Цяжка было бегчы па плытказ купінах, дык ён скінуў боты, скінуў верхнюю вопратку, толькі сухары збярог у торбачцы».

У балотах, дзе даводзілася ратавацца ад блакадаў, малыя неслі дарослым небяспеку: маглі выдаць плачам. Вось чаму з жанчынамі з дзецьмі ніхто стараўся блізка не знаходзіцца, і яны гуртаваліся самі з сабою. На такую групу нарваліся фашысты ў балоце на Дзікім возеры. Падступілі знянацку. Жанчыны кінуліся ўрассыпную, сабраўшы дзяцей на адну пасцілку. Яны спадзяваліся, што ў катаў ёсць сэрцы. Якісь нелюдзь прашыў малечу адной аўтаматнай чаргой. Адбывалася гэтая крывавая дзея на вачах пяцігадовага Мішы Саўрыцкага. Яго паспелі схаваць пад корч.

Хлапчукі-падлеткі да чужынцаў праяўлялі вялікую цікаўнасць — быццам да цыркавых малпаў. Бегалі нават у суседнія вёскі, каб падзівіцца на «фрыцаў». Глядзець на іх было цікава. Машыны высокія, над бартамі толькі каскі бліщчаць. Коней няшмат, але здаровыя. Сабакі і тыя сытыя, ажно поўсць ільсніцца.

«У школе-сямігодцы немцы арганізавалі дом адпачынку, дротам выгарадзілі папоўскі сад, дзе пасвіліся іх коні. Мы, хлапчукі, хадзілі глядзець, як яны голяцца, мыюцца, граюць на губных гармоніках... Падбіралі абгорткі ад шакаладу і рабілі з іх для забавы «залатыя зубы».

Ад выгаленых афіцэраў з кінжаламі і стэкамі на поясе хораша патыхала. Нават выхлапы з іх машын былі не чаднымі, а нейкімі пахучымі. Мусіць, бензін быў добрай якасці. Вяскоўцы пазычалі ў доме адпачынку коней, каб адсеяцца» (Рыгор Лукшыц, вёска Гайна).

Ва ўмовах небяспекі дзеці маглі быць шчытом, якім прыкрываліся жанчыны, а ў крытычных сітуацыях самі ратавалі дарослых.

### Аня і Геня

У Івана Карнейчыка хаваўся яўрэй.

«Прыехаў начальнік паліцыі з Мар'інай Горкі з уласаўцам. Пытаецца ў бацькі: «Яўрэя карміў? — Так, даў яму хлеба. Як я мог адмовіць? Гэта ж мой былы начальнік па фабрыцы».

Бацька ўцяміў, што дакладна яны нічога не ведаюць. Тады Грыгаровіч пачаў лупіць яго нагайкай. Калі стаміўся, перадаў нагайку ўласаўцу, але той адмовіўся: быў мясцовым і бацьку добра ведаў.

Мая старэйшая сястра Аня тым часам кінулася ў пуню: «Дзядзя, уцякайце!» Янкель па канаве папоўз у лес, а бацьку пагналі перад сабой. Ён бег зігзагамі, чакаючы стрэлу ў спіну, а мы, трое дзяўчатак, неадступна беглі следам і прасілі: «Пусціце татачку!»

Паліцай зжаліўся: «Ладна, ідзі». І адпусціў бацьку. А Янкеля ўсё роўна забілі, толькі пазней» (Ксенія Палачаніна).

Здаралася, непаўналетнія траплялі ў атрады са старэйшымі — бацькамі, братамі. Яшчэ часцей — асірацеўшы, не маючы прытулку. Пра юнага партызана Геню Занько я даведалася з публікацыі аповесці Мікалая Валуева ў лагойскай раённай газеце.

Вучань 22-й мінскай школы пражываў на Камароўцы. Па ўласнай ініцыятыве збіраў зброю, выконваў сакрэтныя даручэнні дарослых. У прыватнасці, разносіў нумары падпольнай газеты «Звязда». Так пазнаёміўся з атрадам «Мсцівец», які стаяў у Янушкавічах. У атрад імя Суворава запісаўся, калі страціў бацьку, а маці і сястра сышлі з горада. Загінуў пад Плешчаніцамі падчас падыходу фронту.

Хлапчукі ў атрады самі прасіліся, марылі паваяваць. Камандзіры на ўзрост заплюшчвалі вочы. Мікалай Арцюх (Навагрудчына) успамінае пра свайго аднагодка-падлетка. «Паставілі яго ў дазор. Пайшоў камандзір атрада правяраць, а хлопец спіць. Заснуў каля зямлянкі. Яго арыштавалі, а назаўтра правялі разбіральніцтва. А што ён скажа? Плача — і ўсё. Камандзір, канечне, не расстраляў. Папужалі-папужалі, ды на гэтым усё і скончылася» (паводле расійскага сайта «Я помню»).

Падлеткам трапіў у атрад і Пётр Гарохавік з Ізбішча (Лагойскі раён). Паставілі яго ў начны дазор. Стрэл перапалохаў увесь лагер. Што здарылася? Хлопец, не спытаўшы па правілах «Хто ідзе?», стрэліў — і забіў дзіка. А каб сувязны ішоў? Толькі таму і даравалі, што ежа сама прыбегла... (Паводле Аляксандра Гарохавіка).

### Віця і Тамара

У брыгаду «Штурмавая» запісалі трох падлеткаў з-пад Шаршуноў. Віця Тарасевіч адпрасіўся ў лес на сямейным савеце. Савет складаўся з маці і малодшай сястры. Бацьку ў 1937-м асудзілі і выслалі на ўранавыя руднікі ў Бурацію, бабуля памерла. 14-гадовы хлапчук сказаў хатнім, што не хоча ехаць у Германію (тады якраз забіралі моладзь). Ідучы з задання, зайшоў дадому пераначаваць. З вінтоўкай, у тужурцы — сапраўдны баец. Ранічкай прачнуўся, зірнуў у акно, а там на дарозе падводы. Немцы! Ён за вінтоўку — і лезці праз акно. Збіраўся бегчы ў лес праз чыстае поле.

«Мама за валасы ўцягнула брата назад у хату. Мне загадвае: «Тамара, насі дровы!» Паклала яго ў ложак, тэрмометр пад паху, вінтоўку схавала ў падпечак і заклала дровамі.

Пад'ехалі немцы да нашага дома. Пагрукаўся доўгі, худы,

бялявы немчык. Шукаў старонніх, не выгаворваючы слова «партызан». Атрымлівалася: «Парызан? Парызан?» Пытаецца: «Дзе фатэр?» Мама на пальцах паказала рашотку — зразумеў. Агледзеўшы нашага «хворага», спалохаўся: тыфус?

Мама ўпала на калені: «Не! Не! Горла ў яго!»

Немчык сышоў. Абоз пасунуўся ў суседнюю вёску, забраўшы трох хлопцаў з нашай. Мы не выходзілі з дому. Віця ляжаў так да канца дня, каб не агледзелі і не заклалі суседзі. Вечарам зноў заходзіць той самы абвешаны рэчамі немец з аўтаматам цераз плячо. Чамусьці пахваліў маму: «Гут, матка, гут!» Нічога не ўзялі, бо ў нас ні Шпачка, ні Рагулькі ўжо не было» (Тамара Тарасевіч).

### Зіна, Надзя, Алена

Закрану тэму далікатную: жанчыны ў атрадзе. Бывала, яны там знаходзілі мужоў, і не ўсе сем'і раскідваліся пасля вайны. Яшчэ часцей жанчыны рабіліся «ваенна-палявымі жонкамі» камандзіраў, што, як пісаў у данясенні І.М.Цімчук, «падрывала маральны дух байцоў». У зоне рызыкі знаходзіліся дзяўчаты-сувязныя і жанчыны, якія пяклі хлеб, кармілі-абмывалі. Ад «галодных» мужчын, здаралася, нараджалі. Тыя з дзяцей, што з'яўляліся ва ўмовах акупацыі, мелі няшмат шанцаў выжыць: панміралі ад інфекцыйных хваробаў, ад рызыкоўных паводзінаў мацярок. Напрыклад, кулямётчыца Р. падчас бою клала немаўля на бруствер. Тлумачыла проста: «А хто ёй цыцку дасць, калі мяне заб'юць?» (Ад Фелікса Баторына). Партызанская сувязная К., ідучы на працяглае заданне, прывязвала малога сына да табурэта і ставіла перад ім кубак з вадою (Ад Зінаіды Надумовіч).

Гераізацыя ўдзелу дзяцей у вайне была традыцыяй яшчэ з Грамадзянскай. Дарослыя ў гарадах і мястэчках актыўна выкарыстоўвалі непаўналетніх для падпольных мэтаў. Два прыклады з Плешчаніцаў. Ада Нікалаева па просьбе бацькі пераносіла лістоўкі ў бідончыку з-пад малака. Павел Пустаход тапіў грубку ў жандармерыі і назіраў за абстаноўкай. Былы старшыня калгаса арганізаваў у вёсцы Далькавічы камсамольска-піянерскую (!) групу, даваў дзецям адказныя і небяспечныя заданні. Але адна справа — выведка, і зусім іншая — даручэнні, на якіх можна папасціся «з палічным». Толькі сацыялістычная мараль дазваляла спярша падстаўляць дзяцей, а пасля рабіць з ахвяр герояў. Ворагі ж таксама на ўзрост не зважалі. Сувязную атрада «Барацьба» Зіну Іваноўскую паліцаі злавілі з лістоўкамі, а фашысты пасля жорсткіх допытаў зацкавалі сабакамі.

На пасёлку ля Слабады (Гаенскай) жылі дзве Ніны, хаты адна насупраць другой. Мелі аднолькавыя прозвішчы, сваячкамі пры гэтым не лічыліся. Цётка старэйшай Ніны, Надзя Думанская, ваявала ў атрадзе. І дзяўчынак неяк выправілі завезці ў Калачы небяспечны груз — тол.

Падрыхтавалі ўзрыўчатку, надзейна схавалі на возе. Дзяўчаткам не сказалі, што пад саломай, але папярэдзілі: не чапаць і, барані Бог, нікога не падвозіць! Ехаць было не страшна, бо немцаў з сельсавета партызаны выцеснілі. Груз прынялі ў Бабрах: забралі разам з канём і калёсамі. Дзяўчынак на іншым возе завезлі дадому партызаны (Паводле Ніны Моўчан).

У канспіратыўную дзейнасць была ўцягнутая дзесяцігадовая дачка мінскай падпольшчыцы Алены Загорскай. Гуляць у мячык і падаваць знакі, калі хтосьці набліжаецца, — нескладана і нават цікава. Альбо ісці праз горад з чужым дзядзькам за руку, каб яго не западозрылі і не затрымалі. Аднак у размове выявілася адна далікатная акалічнасць: Ірына Станіславаўна не жадала публічна розгаласу наконт яе ранняга ўдзелу ў дарослых справах. Маўляў, «будуць смяяцца». Я спачатку не зразумела, які падтэкст стаіць за гэтай фразай. Бо што тут смешнага?

Кемлівая Іра паспяхова спраўлялася з абавязкамі пасыльнай — прынесці-аднесці важныя паперы, перадаць інфармацыю, папярэдзіць. Часта служыла ў якасці схову: дакументы або лістоўкі на ноч клаліся пад кашульку і прыціскаліся гумкай ад майткоў.

Загорская загінула ў Трасцянцы. Дзве яе дачкі прайшлі пекла, але засталіся жывымі. Бабулю ўжо, маючы статус удзельніцы вайны, малодшая адмаўлялася расказваць пра Нямеччыну, і ўвогуле неперапужалася ад роспытаў. Яна мо думала, што яе правяраюць, як правяралі калісьці органы?

Пасля таго, як фашыстаў пацяснілі на Захад, яшчэ хапала гора на нашай зямлі. Як заўсёды, гінулі слабейшыя: дзеці хварэлі з-за антысанітарыі, падрываліся на мінах і снарадах, якія заставаліся ў наваколлі. У Янушкавічах у раўку ляжала штосьці жалезнае і круглае: дзеці на невядомы прадмет скакалі з мастка. Хтосьці з дарослых усё ж агледзеў, што гэта бомба. Прыехалі два грузавікі з вайскоўцамі, у адным быў пясок. Бомбу акуратна пагрузілі і павезлі. Праз паўгадзіны прагучаў такі выбух, што аж скаланулася навакольле (Паводле Ларысы Лявончык).

**Не ведаю, ці падлічыў хто колькасць сірот на нашай зямлі пасля Вялікай Айчыннай. Мноства беларусаў палегла пад Кёнігсбергам у свой асноўны прызыў 1944 года. У каго былі сваякі, тыя бралі дзяцей да сябе і гадавалі як сваіх**

### Сіроты

Не ведаю, ці падлічыў хто колькасць сірот на нашай зямлі пасля Вялікай Айчыннай. Мноства беларусаў палегла пад Кёнігсбергам у свой асноўны прызыў 1944 года. У каго былі сваякі, тыя бралі дзяцей да сябе і гадавалі як сваіх. У сям'і Карпа Локця ў Малых Янушкавічах гадаваліся двое сіротаў: пляменніца і чужы хлопчык. Хлопчык быў сынам Аляксандра Бабкевіча, чыю цяжарную жонку забілі ў блакаду. Іх паранены ў руку хлопчык прывязаўся да аднагодка і прыйшоў у дом Карпа Локця. Там і застаўся.

«Наш сусед-партызан папрасіў маму: «Калі мяне на фронт пагоняць, то паглядзі маё дзіця». Алік жыў з намі да канца вайны. Вярнуўшыся, Аляксандр сказаў маме: «Я цябе ніколі не забуду» (Леаніда Тарлецкая).

Круглых сіротаў дзяржава адпраўляла ў дзіцячыя дамы. Выхаванкі Мінскага дзіцячага дома № 7 Вольга Далгачова (Гумен) і Надзея Юльская (прозвішча, як вы разумееце, прыдуманае. — Г.К.) сцвярджаюць, што ім зайздросцілі дзеці з сем'яў: дзетдомаўкі насілі прыгожанькія кітайскія паліто і чаравічкі з лендлізу, пра іх клапаціліся шэфы з прадпрыемстваў.

У Плешчаніцах адкрыліся два дзіцячыя дамы: адзін для дзяцей франтавікоў, другі — для дзяцей калабарантаў. У адзін калектыў іх не зводзілі. І меню, як вы разумееце, было не аднолькавае.

Ля Крывічоў у былым памешчыцкім маёнтку працаваў дзіцячы дом для юных «остарбайтараў». Выхаванцы там знаходзіліся, пакуль шукалі іх сваякоў, якія маглі б забраць бязбацькавічаў. Кантынгент быў яшчэ той: хлопцы бегалі ў суседнюю вёску па самагонку, дзяўчаты пагульвалі. Сваю аднагодку-выхавальніцу слухаліся і паважалі: яна перажыла акупацыю і ў іх вачах была гераіняй.

Жыхар Лагойска Анатоль Макарэвіч застаўся круглым сіратою. Перш спынілася сэрца ў бабулі, калі партызаны выводзілі з хлява ўжо другую карову, потым ад ранаў і туберкулёзу памёр бацька. Затым хлопец пахаваў матулю і трох брацікаў-сястрычак. Двое выжыўшых трапілі ў дзіцячы дом. А Толік туды не захацеў — і ў 13 гадоў гаспадарыў у доме адзін. Прамакаткай затыкаў дзіравы чаравік і гэтак ішоў у школу.

У гарнізоне з ворагамі даводзілася жыць побач. Кожны дзень бачыць іх зверствы, выконваць іх загады. Так што лагойскія жыхары нацярпеліся ад усіх: і ад акупантаў, і ад паліцэйскіх, і ад партызанаў. Пра паліцаяў гавораць, што былі найгоршымі, і што нават немцы ў параўнанні з імі «нармальныя людзі».

«З 18.00 аб'яўлялася камендацкая гадзіна. На вуліцы ні душы, адно паліцаі дзяжураць. Паслала нас мама ў студню па ваду, трэба было купаць браціка. Старэйшая сястра набірала, а мне даручылі пільнаваць. А тут яны, двое, са зброяй. Як закрычаць дзікім голасам — «Пароль!» — і наставілі на сястру аўтамат. Я ўсікалася ад страху, пабегла да мамы, трасуся і паўтараю, як заведзеная: «Пароль! Пароль!» Мама ўсё зразумела і кінулася на двор. Яна на каленях прасіла паліцаяў нам даравацъ» (Валянціна Гарачка).

Саўдзенеўская Юля Жук асірацела ў 1943-м. Бацькі яна ўвогуле не ведала, маці знікла ў Мінску, выконваючы падпольнае заданне. Выратаванне Юлі падобна на цуд. Гарэла вёска, запаленая паліцаямі. Адны жыхары разбегліся, другія хаваліся ў рэчцы пад карчамі. Многія тады пагінулі… Глядзіць Адам Рабчун — па Сліжанцы, уніз па цячэнні тупае малая годзікаў чатырох. Адам, яшчэ не ведаючы, чыё дзіця, прынёс яе на руках дадому і гаворыць: «Во, Аміля, будзе і ў нас дачка».

У Адама не было сваіх дзяцей, дык Бог яму прыслаў гатовае. Сам з фронту не вярнуўся, а дзяўчынка вырасла (Паводле Тамары Давідовіч, вёска Сліжына).

Неакрэплая дзіцячая псіхіка траўмавалася на ўсё астатняе жыццё ад пакутаў і смерці блізкіх, ад штодзённай небяспекі, бесперапыннага стрэсу. Доктарка Ганна Дораш прызналася, што яе доўга праследаваў панічны страх перад самалётамі — хацелася не тое што схавацца, а закапацца ў якуюсьці мышыную нару.

Здараліся страсенні, якія цяжка перанесці нават сталаму. На вачах у Валі Сакалоўскай (Акаловіч) у жніўні 1941-га паліцай разбіў вінтоўкай чэрап хлопчыку-яўрэю, а яго маці зарэзала сябе сярпом.

Такія прыклады можна доўжыць бясконца. Перажытае адкладалася ў падсвядомасці і замацавалася як праграма, назва якой — страх перад вайной. Адна плешчаніцкая пенсіянерка сказала: «Я гатова есці чорны хлеб і піць ваду, каб толькі не было вайны».

### Козачка Белачка

Каб унесці трошкі пазітыву ў гэтую цяжкую для псіхікі тэму, пазнаёмлю чытачоў з допісам Алы Бароўскай, якая прымала ўдзел у конкурсе твораў пра жывёл.

«Сям'я Бароўскіх сыходзіла ў партызанскі атрад, пакінуўшы маёй маме козачку і куру з куранятамі. Маме, партызанскай сувязной-разведчыцы, было не да казы і курэй. Курыцу яна даручыла бабулі, а козачку — мне». Дзяўчынка палюбіла прыгажуньку-козачку з маленькімі завушнічкамі і разумнымі зелянцова-шэрымі вачамі. Гаспадынька пасла, карміла сваю гадаванку, а потым і раздаіла на паўлітра смачнага малачка. Белачка не адставала ні на крок і ахвотна ўдзельнічала ў дзіцячых гульнях.

«Праз пару дзён мы павінны былі з козачкай сустракаць маю маці. Яна пераводзіла ў партызанскі атрад беларускага пісьменніка Рыгора Мурашку.

— Глядзі ўважліва на галоўную вуліцу, — сказала мне маці, — і калі ўбачыш нямецкую машыну, бяры козачку і бяжыце насустрач. Я паўдня праседзела ля школы, уважліва гледзячы на вуліцу. Падыходжу да цэнтра вёскі, дзе спынілася машына, і тут бачу, што насустрач ідзе мая маці з нейкім мужчынам. Гэта і быў той самы Мурашка. На шчасце, маці хутка ацаніла абстаноўку. Падышла да паліцая, які не зводзіў з яе вачэй, і сказала:

— Знаёмцеся! Пан інспектар прыехаў правяраць нашу школу».

Дзяўчынка тым часам старалася адцягнуць увагу немцаў, што сядзелі ў машыне.

«А ну, Белачка, пакажы, якая ты ў мяне артыстка!» — скамандавала я і падняла руку ўгару, раскрыўшы далонь. Белачка ўсё зразумела і пачала хуценька круціцца пад маёй рукой, стаўшы на заднія ножкі і стараючыся галоўкай папасці ў далоньку. Немцы рагаталі… «Разумніца!» — сказала я козачцы і пацалавала яе ў цёплы носік».



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Чыноўнікі пойдуць у комікі

Прадстаўнікі расійскага праўладнага асяроддзя працягваюць спрабаваць зразумець феномен Зяленскага ў тым ліку з пункту гледжання патэнцыйных выклікаў сістэме Пуціна. У прынцыпе, даміноўць два падыходы. Адны не бачаць асаблівай небяспекі, паколькі ў сённяшняй Расіі ролю коміка ад палітыкі выконвае Жырыноўскі. Другія лічаць, што Зяленскі — гэта яшчэ адна спроба папулісцкай рэвалюцыі, у якой асноўным інструментам ідэалагічнага знішчэння дзеючай улады з'яўляецца смех. Пры гэтым у смеху ёсць унікальная магчымасць «працягнуць праз эстраду эфектыўную палітычную праграму». Выйсце некаторыя бачаць у тым, каб узняць пачуццё гумару чыноўнікаў, якія маглі б іранічна рэагаваць на крытыку, надаваць смеху лаяльны характар. Рабіць з чыноўнікаў «петрасянаў» прапануецца на спецыяльных трэнінгах у межах праекта ў кшталту «Лідары Расіі». А праводзіць гэтыя трэнінгі павінны лепшыя з ветэранаў КВЗ. Ці сапраўды дойдзе да такіх трэнінгаў, цяжка сказаць. Затое відавочна, што Зяленскі выклікаў у Крамлі моцную заклапочанасць.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Якой была альтэрнатыва Тэтчэр?

Спаўняецца 40-я гадавіна прыходу да ўлады Маргарэт Тэтчэр. Адбылося гэта па выніках выбараў у брытанскі парламент 3 траўня 1979 года. Пасля пераезду на Даўнінг-стрыт, Тэтчэр запусціла жорсткую ліберальную ломку брытанскай эканомікі. Між тым, высвятляецца, што альтэрнатыва тым рэформам была таксама вясёлай. Увосень 1978-га на з'ездзе кіраўніцтва лейбарыстаў абмяркоўвала свой план трансфармацыі краіны ў выпадку перамогі ў траўні 1979-га. Гэты план уключаў шырокую нацыяналізацыю і пашырэнне сегменту планавай гаспадаркі. Праўда, пайсці з такой праграмай на выбары лейбарысты маглі ў выпадку, калі партыйны спіс узначаліць Тоні Бэн — папулярны ў краіне палітык вельмі левых поглядаў. Аднак у выніку партыю ўзначаліў больш асцярожны Джэймс Калагэн. Дарэчы, магчыма, у гэтым і быў сакрэт перамогі Тэтчэр. На той час краіна знаходзілася ў глыбокім крызісе праз страйкі, рост правага радыкалізму, эрозію культурных шаблонаў, што выявілася ў паўстанні руху субкультуры «панк». Не выключана, што брытанцы галасавалі за таго, хто абяцаў кардынальна змяніць сітуацыю. Правал Тоні Бэна быў невыпадковым. Яшчэ ў 1981 годзе меў месца зліў інфармацыі з архіваў сакрэтных службаў. Паводле кампрамату, група агентаў працавала з лейбарыстамі, каб не дапусціць Бэна на пасаду лідара партыі.

**Паводле брытанскай прэсы**

### МЕКСІКА. Забараніць халоднае піва!



У муніцыпалітэт мексіканскай сталіцы паступіла незвычайная прапанова — забараніць продаж халоднага піва. Ініцыятар праекта — адзін з мясцовых дэпутатаў — лічыць, што згаданыя захады знізіць папулярнасць алкагольных напояў сярод моладзі. Сёння Мексіка ўтрымлівае сумнае статыстычнае першынства па алкагалізму сярод моладзі. Спажыванне цёплага піва ў гарачае надвор'е, якое пануе ў Мехіка, не прынясе вялікага задавальнення. Аднак многія мексіканцы ў сацыяльных сетках крытычна паставіліся да прапановы. Яны сумняваюцца, што продаж цёплага і нясмачнага піва спыніць аматараў напою. Відавочна, што яны будуць ахаладжваць піва ў хатніх лядоўнях. Іншыя прапануюць тым жа метадам змагацца з атлусценнем, прадаючы замарожаныя хот-догі. Так ці інакш, пад ціскам публікі муніцыпалітэт паабяцаў не выносіць праект на разгляд гарсавета без сур'ёзнай карэкціроўкі яго зместу.

**Паводле французскай прэсы**

### ЕС. Квоты палепшаць футбол?

Брытанская газета «The Times» апублікавала «маніфест», які хутчэй нагадвае ультыматум. Аўтары «маніфесту» патрабуюць увядзення квотаў у кіраўніцтве футбольных клубаў і міжнародных арганізацый.

Асобы альтэрнатыўнай сексуальнай арыентацыі і нацменшасці, як гаворыцца ў дакуменце, павінны атрымаць адмысловую квоту. Рэформа, як мяркуюць аўтары ідэі, не толькі ўзмоцніць грамадскі давер да гэтых структур, але і… пазітыўна адаб'ецца на якасці гульні. «Амаль поўная адсутнасць этнічнай і гендарнай разнастайнасці ў шэрагах дырэктараў і на кіруючых пасадах клубаў, лігаў і асацыяцый абмяжоўвае вопыт, які спрыяе гульні», — гаворыцца ў маніфесце. Нягледзячы на арыгінальнасць патрабаванняў, у «маніфеста» ўжо з'явіліся моцныя лабісты. Так, за квоты ў футболе выступіў мэр Лондана Садзік Хан. Што тычыцца заўзятараў, то яны жартуюць пра тое, што хутка квоты для геяў і прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў увядуць для гульцоў камандаў.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Вялікі скачок Еўропы

Алег НОВІКАЎ

**Кіпр, Чэхія, Эстонія, Венгрыя, Латвія, Літва, Мальта, Польшча, Славакія і Славенія — роўна 15 гадоў таму, 1 мая 2004-га, гэтыя краіны сталі сябрамі Еўрасаюзу. Адбылося беспрэцэдэнтнае пашырэнне ЕС, якое таксама часта называюць «вялікі скачок».**



Ніколі не забуду, як 1 траўня 2004 года трапіў пад хапун, які польскія памежнікі арганізавалі ў Тэрэспалі супраць антыглабалістаў. Прайшла інфармацыя, што тыя мараць сарваць афіцыйную імпрэзу, якая павінна была адбыцца ў Варшаве. Як вынік, прыкладна тузін беларусаў, а заадно і чачэнцаў, якія прыехалі ў Польшчу за прытулкам, высадзілі з электрычкі і канваявалі ў невялікае памяшканне ўнутры вакзалу. Там мне давялося прасядзець да вячэрняй дэпартацыі на радзіму, цалкам не ацаніўшы ўсёй гістарычнай значнасці дня.

Між тым, 1 мая 2004 года заслугоўвае ўвагі. Пашырэнне канчаткова перагарнула старонку гісторыі, калі ў народаў Усходу і Захаду былі розныя лёсы. І ў дадатак справакавала дэбаты пра тое, дзе сапраўды праходзіць усходняя мяжа Еўропы. Шмат хто лічыў, што тыя кардоны павінны праходзіць пад Оршай або Харкавым. Як вынік, праеўрапейскія сілы ў рэгіёне атрымалі моцны маральны допінг, што праявілася ўжо ўвосень. Аранжавы Майдан, які выбухнуў у Кіеве, праходзіў пад еўрапейскімі сцягамі. Тэма еўраарыентацыі як сістэмнай альтэрнатывы існуючым рэжымам пасля 2004-га стала прапісалася ў палітычнай дыскусіі краінаў экс-СССР.

Увогуле, не прыняць Усходнюю Еўропу ў ЕС было проста немагчыма — хаця б таму, што менавіта ўсходнееўрапейцы прыдумалі канцэпт Еўрапейскага саюза. Так, днямі прэса вынайшла, што яшчэ ў XVII стагоддзі польскі астраном Станіслаў Любенецкі падбіваў французскага манарха ўзяць тытул «кароль Еўропы». А Станіслаў Ляшчынскі (1677–1766) напісаў трактат «Мемарыял аб вечным міры», у якім заклікаў Францыю (самая буйная дзяржава таго часу) абвясціць пра свой патранат над усімі еўрапейскім краінамі з рэспубліканскай формай кіравання. Гэтая мегадзяржава павінна была аб'яднаць землі ад Партугаліі да ўсходніх межаў Расійскай Імперыі. Ляшчынскі нават агучыў нейкі праваобраз еўрапейскай канстытуцыі, паводле якой вышэйшая ўлада ў Еўропе належала Кангрэсу, дзе прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх краін-суб'ектаў.

З улікам ролі грамадзян Рэчы Паспалітай у распрацоўцы канцэпцыі агульнай Еўропы, магчыма, справядліва тое, што менавіта Польшча стала галоўным бенефіцыярам пашырэння 2004-га. Яшчэ напрыканцы 2017 года Польшча афіцыйна перайшла ў шэрагі тых краін, што развіваюцца найбольш дынамічна. Сёння гэта адна з найбольш актыўна растучых эканомік Еўропы. Паводле прагнозаў, бліжэйшымі гадамі ў пэўных прамысловых галінах Польшча можа абагнаць Францыю і ФРГ.

**Ідэі выхаду са складу ЕС — фішка маргінальных палітыкаў. Еўрапейцы згодныя: пашырэнне ЕС спрыяла ўмацаванню дэмакратыі і барацьбе з карупцыяй**

Пры гэтым нельга не адзначыць цікавы казус. Абсалютная большасць палякаў падтрымліваюць сяброўства краіны ў ЕС. Аднак пры ўсёй еўрафіліі палякаў пры ўладзе ў Варшаве доўгі час знаходзяцца кансерватары, якія без перапынку сварацца з Брусэлем за большую прававую і фіскальную аўтаномію краю.

Што тычыцца іншых краінаў, то там малюнак не такі адназначны. Пазітыўнымі паказнікамі могуць ганарыцца Чэхія, Славакія, Румынія. Горш выглядаюць справы ў Балгарыі і ў краінах Балтыі (акрамя Эстоніі). З іншага боку, ідэі выхаду са складу ЕС — фішка палітыкаў маргінальнага калібру. Пры ўсіх праблемах усходнія еўрапейцы згодныя: пашырэнне ЕС спрыяла ўмацаванню ў іх краінах дэмакратыі і барацьбе з карупцыяй.

Увогуле, цяперашняя гадавіна пашырэння адзначаецца ў эмацыйнай атмасферы, абсалютна не падобнай на тую, што панавала 15 гадоў таму. У 2004 годзе, калі сусветная эканоміка квітнела, а Расія яшчэ выходзіла з ямы 1990-х гадоў, еўрапейскім палітыкам падавалася, што магчыма ўсё. Іх не стрымлівалі нават кошты, якія павінны былі пайсці на падтрымку новых сябраў аб'яднання.

Але праз тры гады выбухнуў глабальны фінансавы крызіс, які падкасіў у тым ліку еўрапейскія рынкі. У 2010 годзе Грэцыя прызнала, што знаходзіцца на мяжы банкруцтва. У зоне еўра пачаліся праблемы, якія хранaлагічна сталі кропкай адліку ўздыму еўрафобскіх настрояў. Міграцыйны і эканамічны крызісы апошніх гадоў яшчэ больш узмацнілі лагер еўраскептыкаў, якія там-сям нават дарваліся да ўлады. Намер Вялікабрытаніі пакінуць еўрапейскі праект стаў для еўраоптымістаў сапраўднай маральнай траўмай.

Пра тое, што пакуль згаданая тэндэнцыя захоўваецца, сведчаць вынікі так званага Балканскага саміту ў Берліне, які праходзіў 29–30 красавіка. Падчас перамоваў Макрон і Меркель заблакавалі стары план Брусэля па пашырэнні ЕС за кошт шэрагу балканскіх дзяржаў да 2025-га. Пакуль плануецца адкласці прыём на нявызначаны тэрмін. Дарэчы, такі крок дыктуюць суровыя реаліі. Калі Сербія і Косава стаяць на парозе вайны, наўрад ці дарэчы абмяркоўваць нейкае пашырэнне.

Нягледзячы на кепскія навіны, наўрад ці варта складаць некралогі еўрапраекту. Так ці інакш, гэты крызіс — не назаўжды. Прычым падчас выхаду з крызісу ў ЕС могуць паўстаць яшчэ больш амбіцыйныя планы. Напрыклад, днямі шведскае выданне «Svenska Dagbladet» заклікала Брусель шукаць рашэнне праблем праз уключэнне ў свой склад не толькі еўрапейскіх дзяржаў. Такая пазіцыя, мяркуе выданне, «падтрымае імкненне народаў на Захад і ўдарыць па радыкалізацыі грамадства». Ужо называецца і першая краіна-кандыдат у сябры ЕС, якая геаграфічна знаходзіцца па-за межамі Еўропы, — гэта Мексіка.




Фота www.tempting.pro

# Рэха аднаго рабавання

Алег НОВІКАЎ

**Сорак пяць гадоў таму выбухнуў Уотэргейцкі скандал — падзея, якая кардынальна змяніла палітычную культуру, і прычым не толькі ў ЗША.**

Імпічмент — бадай адно з самых папулярных слоў, якія гучаць сёння на Капіталійскіх узвышшах. Ідэя адхілення ад улады дзеючага прэзідэнта Дональда Трампа зноў набыла надзвычайную актуальнасць. Усё праз публікацыю так званага «рапарта» пракурора Мюлера, які вывучаў магчымыя кантакты Трампа з Пуціным падчас выбараў 2016-га. У выніку нічога асаблівага на гэтую тэму Мюлер не накапаў. Затое выцягнуў на белы свет тузін неадназначных учынкаў прэзідэнта ЗША, якія дэмакраты тлумачаць як парушэнне выбарчага працэсу. Гэтага, маўляў, цалкам хапае для адстаўкі. Пры гэтым дэмакратаў нават не стрымлівае той факт, што рэспубліканцы, маючы большасць у сенаце, лёгка заблакуюць замах на ўладу кіраўніка краіны.

Энтузіязм дэмакратаў наконт імпічменту Трампу, напэўна, часткова можна растлумачыць тым, што набліжаецца гадавіна Уотэргейта — адзінага за гісторыю ЗША выпадку, які прымусіў прэзідэнта сысці з пасады. Здарылася гэта ў жніўні 1974 года, аднак менавіта ў лютым Кангрэс прыняў пастанову аб запуску працэсу адстаўкі.

Першапачаткова ўсё выглядала як нешта несур'ёзнае. Улетку 1972-га, за чатыры месяцы да выбараў прэзідэнта, на якіх перамог Ніксан, ахоўнікі затрымалі групу падазроных у гатэлі «Уотэргейт», дзе знаходзіўся штаб дэмпартыі. Знешне ўсё выглядала як простае рабаванне, але прыператрусе праваахоўнікі нечакана знайшлі ў злачынцаў складаную гуказапісвальную апаратуру. У тым ліку пад ціскам прэсы пачалося следства, вынікі якога цяжка было прагназаваць. Сляды рабаўнікоў вялі ў апарат Белага дома, дзе, як пазней высветлілася, працавалі так званыя «водаправоднікі» — служба, адказная за праслухоўванне апанентаў Ніксана. Высветліліся і іншыя брудныя справы.

Спачатку Ніксан спрабаваў замяць скандал, але ледзь не кожны дзень выяўляліся новыя факты: «жучкі», устаноўленыя ў штаб-кватэры дэмакратаў, запісы гутарак, якія вяліся ў Белым доме, і гэтак далей. У выніку была сфармаваная сенацкая камісія па «справе Уотэргейту», а самі судовыя слуханні сталі перадавацца па тэлебачанні на ўсю краіну і збіралі шалёную аўдыторыю.

Праз два-тры месяцы нават для самых фанатычных абаронцаў Ніксана стала відавочна, што прэзідэнт ад самага пачатку спрабаваў перашкодзіць правасуддзю ў асабістых і партыйных інтарэсах. Пасля таго, як ад Ніксана адвярнуліся рэспубліканцы-сенатары, імпічмент стаў вырашанай справай. Апоўдні 9 жніўня 1974 года Ніксан, пазбавіўшыся ўсіх саюзнікаў і перад тварам немінучага імпічменту, пакінуў Белы дом.

Развязка стала шокам не толькі для амерыканцаў. За працэсам сачылі ва ўсім свеце. Больш за ўсё не знаходзілі сабе месца праамерыканскія дыктатары краінаў «трэцяга свету». Па сутнасці, іх аўтарытэт залежаў ад рэнамэ Белага дому. Іранскі шах, які быў зрынуты праз пяць гадоў, заклікаў Кангрэс супакоіцца, паколькі аслабленне прэзідэнцкай улады ў ЗША правакуе рост небяспекі ва ўсім свеце.

З іншага боку, Уотэргейт удaрыў не толькі па статусе дыктатараў з перыферыі. Партнёраў Злучаных Штатаў з Еўропы таксама таемна праслухоўвалі падчас візітаў за акіян. Праўда, некаторыя — напрыклад, прэм'ер Аўстраліі, — лічылі гэта цалкам нармальным.

Цікавай была рэакцыя сацыялістычнага лагеру. Хаця ў савецкіх СМІ прэзідэнт ЗША заўжды маляваўся галоўным падпальшчыкам «халоднай вайны», гэтым разам каментары былі вельмі карэктныя. Больш за тое, візіт Брэжнева ў Злучаныя Штаты ў разгар скандалу ў 1973-м разглядаўся як сімвалічная падтрымка Ніксана. Назіральнікі пагаджаюцца, што Масква сімпатызавала Ніксану як палітычнаму лідару, які выступаў за прагматычны фармат амерыкана-савецкіх адносін. Больш адкрыта падтрымаў Ніксана камуністычны Кітай, дзе імпічмент наўпрост назвалі вынікам занадта вялікіх свабодаў, што маюць амерыканскія грамадзяне.

А вось на Кубе навіну пра адстаўку Ніксана адзначалі як сапраўднае свята. Гавана разглядала падзеі ў ЗША як своеасаблівую помсту амерыканскай эліце за кааперацыю з кубінскай контррэвалюцыяй. Яе прадстаўнікі займаліся не толькі дыверсіямі на радзіме Кастра. Працаўнікаў кубінскага рэжыму ўлады ЗША выкарыстоўвалі для брудных спраў унутры краіны. Прысутнічалі кубінцы і ў той самай групе «водаправоднікаў», якая спрабавала зайсці ў штаб-кватэру дэмакратаў у гатэлі «Уотэргейт».

Дасюль ідуць дэбаты адносна ўплыву Уотэргейта на тэатр вайсковых аперацый у В'етнаме. Ужо пасля адстаўкі Ніксана яго прыхільнікі казалі пра падзенне духу жаўнераў ЗША з-за кепскіх навінаў з Вашынгтону. Прынамсі, Генры Кісінджэр, што быў дзяржсакратаром пры Ніксане, казаў, што захоп в'етнамцамі Сайгону ўвесну 1975-га быў вынікам Уотэргейта. Хаос у Белым Доме, маўляў, паралізаваў працу адміністрацыі і не дазволіў своечасова прыняць патрэбныя захады.

Калі нават гэта і так, то пазітыўныя наступствы Уотэргейта кампенсавалі ЗША страту Сайгона. Відавочна, яны давялі жыццёвасць і эфектыўнасць пунктаў Канстытуцыі, якія падпарадкоўвалі ўладу грамадству. А паколькі ўся эпапея адбывалася напярэдадні 200-й гадавіны Дэкларацыі пра незалежнасць ЗША, амерыканская ідэя атрымала новы драйвер. Сама перспектыва аказацца другім Ніксанам з тых часоў стала стрымліваючым фактарам для прэзідэнтаў (і не толькі Злучаных Штатаў).

Нарэшце, ёсць яшчэ адзін цікавы пазітыў Уотэргейта. Як вызнавалі сучаснікі, жарсці вакол следства па Уотэргейце дапамаглі ім забыцца пра энергетычны крызіс, што выбухнуў на пачатку 1970-х. Завобласныя кошты на паліва мала каго цікавілі на фоне сенсацыйных трансляцый з Кангрэсу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Аляксей Навальны



Многія лічаць, што ў кантэксце апошніх падзей на кар'еры аднаго з вядучых лідараў расійскай апазіцыі можна ставіць крыж.

Па-першае, апазіцыянера абвінавацілі ў фінансавых махінацыях. У канцы красавіка Навальны апрылюдніў фінансавую справаздачу свайго ФБК (Фонду па барацьбе з карупцыяй) за 2018 год. Як кажуць, многія лічбы там наўмысна не пазначаныя. Напрыклад, не ўключаныя ў справаздачу даходы, атрыманыя на афіцыйны біткоін-рахунак штаба. А між тым за 2018 год на гэты рахунак накапала $1,6 мільёна спонсарскіх сродкаў! Другім моцным іміджавым ударам па Навальным стала інфармацыя, што яго дачка залічана ў прэстыжны Стэнфардскі ўніверсітэт (ЗША). Якой бы таленавітай дзяўчына ні была, відавочна, што ў Расіі ў чалавека з прэзідэнцкімі амбіцыямі дачка апрыёры не можа вучыцца на Захадзе.

Зрэшты, магчыма, спісваць Навальнага рана. Яго прыхільнікі — тынейджары, не цікавяцца СМІ, якія зараз выдаюць кампрамат на іх куміра. Пра моцныя пазіцыі Навальнага кажа і новая вар'яцкая медыя-кампанія ў праўладных расійскіх СМІ, згодна з якой Навальны, каб зрынуць Пуціна, вырашыў зрабіць стаўку... на наркаманаў.

### Найжэл Фарадж



Брытанскі правы палітык, якога часта называюць «бацькам Брэксіту», вырашыў перапісаць формулу брытанскай палітыкі, што паўстала пасля вайны.

Менавіта Фарадж у 2016-м кіраваў кампаніяй за выхад Вялікабрытаніі са складу Еўрасаюза. У выніку еўраскептыкі дамагліся перамогі, якая зацягнула краіну ў глыбокі палітычны крызіс. Аднак гэтага самому Фараджу, падаецца, мала. Прыкладна ў лютым ён стварыў рух Brexit Party, якому спатрэбілася ўсяго пару месяцаў, каб прабіцца ў топы папулярнасці. Паводле апошніх апытанняў, у выпадку выбараў у парламент Brexit Party атрымлівае 17 працэнтаў. Калі ж у траўні на Альбіёне ўсё ж адбудуцца выбары ў Еўрапарламент, Brexit Party, як і лейбарысты, набірае 28 працэнтаў.

Відавочна, што клуб сімпатызантаў Фараджа фармуецца за кошт электарату кансерватараў, якія праз фурор Brexit Party апынуліся напярэдадні гістарычнай электаральнай катастрофы. На майскіх выбарах у Еўрапарламент за іх гатовыя галасаваць толькі 14 працэнтаў выбаршчыкаў. І гэта можа быць толькі пралогам канфузу на выбарах у брытанскі парламент. З улікам нестабільнасці кабінету Тэрэзы Мэй, датэрміновыя выбары могуць быць абвешчаныя ў любы час. Прычым, як пішуць назіральнікі, кансерватары не маюць плана, як спыніць Фараджа, які адкрыта пагражае канчаткова прыбраць партыю торы з брытанскай палітычнай сцэны.

### Святаслаў Вакарчук



На думку многіх, менавіта лідар рок-гурта «Океан Эльзи», а не Зяленскі павінен быў сёння займаць пасаду прэзідэнта Украіны.

Вакарчук першым, прыкладна тры гады таму, пачаў прасоўваць у грамадстве ідэю, што прадстаўнік шоў-бізнеса можа стаць кіраўніком дзяржавы. Ён таксама значна раней за Зяленскага заявіў пра свае палітычныя амбіцыі. Аднак па невядомых прычынах у прэзідэнцкую кампанію ён так і не ўключыўся, дазволіўшы коміку з «95 квартала» манапольна эксплуатаваць тэму артыста ў палітыцы.

Сёння падобна на тое, што Вакарчук вырашыў узяць у Зяленскага рэванш. Спачатку казалі, што музыка можа ўзначаліць спіс Блока Пятра Парашэнкі на восеньскіх выбарах у Раду. Пра гэта ўскосна сведчыла, што ў другім туры выбараў Вакарчук негалосна падтрымаў кандыдатуру Парашэнкі, заклікаўшы ўкраінцаў «не галасаваць па прыколу». Аднак цяпер падобна на тое, што Вакарчук збіраецца гуляць аўтаномна. Некалькі крыніц пацвердзілі яго намер стварыць сваю партыю.

Падрабязнасці праекта мы, напэўна, даведаемся напрыканцы траўня, калі ў Кіеве пройдзе анансаваны днямі канцэрт рок-гурта Вакарчука. Паколькі канцэрт плануецца правесці ў дзень інаўгурацыі Зяленскага, многія ўгледзелі тут палітычны апазіцыйны падтэкст. Застаецца дадаць, што калегі Вакарчука па ўкраінскай эстрадзе скептычна ўспрынялі яго новыя забабоны.

# Вырвацца з рук АДПУ



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Некалькі гадоў таму, падчас працы над кнігай «Мяжа была пад Мінскам» у галандскім архіве я знайшоў здымкі, зробленыя ў пачатку 1930-х гадоў на міжваеннай савецка-польскай мяжы ў Беларусі. На адным з фота была выяўлена маладая жанчына, якая трапіла на тэрыторыю Польшчы па абмене палітвязнямі. «Як бы даведацца, хто гэта?» — падумаў я тады. І вось праз некалькі гадоў, у Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы я знайшоў пратакол допыту той самай дзяўчыны, якая ў пачатку 1930-х гадоў збегла з «імперыі Сталіна».**

## Сялянка з Койданава

Ганна Канстанцінаўна Вярыга нарадзілася ў 1907 годзе і жыла ў вёсцы Андрэеўшчына Койданаўскага павета БССР. Падчас допыту, які праводзіў следчы выведкі польскага Корпуса аховы памежжа (КАП) пасля прыбыцця савецкай грамадзянкі ў Баранавічы, дзяўчына падкрэслівала: «Усё сваё жыццё (на момант абмену ў 1932 годзе ёй было 25 гадоў. — І.М.) я нікуды не выязджала і працавала ў сельскай гаспадарцы разам з бацькамі. У школу не хадзіла, але дома навучылася чытаць і пісаць. У снежні 1922 года я нелегальна перайшла мяжу з СССР у Польшчу разам са сваёй сястрой Янінай і пасялілася ў сваякоў у вёсцы Татаршчына Стаўбцоўскага павета. Хутка пасля гэтага вярнулася дадому, у Саветы».

У 1930 годзе зямельная маёмасць Вярыгаў (15 дзесяцін) была ўключаная ў склад калгасу «Савецкая трыбуна». Варта разумець, што «рыжская мяжа» падзяліла не толькі Беларусь, але і звычайных людзей. Адна частка жыхароў беларускіх тэрыторый стала грамадзянамі БССР, другая — падданымі Другой Рэчы Паспалітай. Сям'я Ганны Вярыга не была выключэннем. За кардонам у Рубяжэвічах і Стоўбцах у яе жылі браты і сёстры.

У 1927 годзе бацька дзяўчыны быў арыштаваны ДПУ за тое, што годам раней прыняў у сваім доме сваяка Жыгімонта Доўнара з Рубяжэвічаў і польскага грамадзяніна Міхаіла Цвірбута, якія нелегальна перайшлі мяжу. Па просьбе гасцей з Захаду старэйшы Вярыга паехаў у Мінск, даў нейкую аб'яву ў газету, а таксама набыў і прывёз дадому свежую савецкую прэсу. Праз год савецкія памежнікі затрымалі Цвірбута на мяжы і на допыце той згадаў Канстанціна Вярыгу як свайго памагатага.

Восенню 1927 года селяніна прысудзілі да 5 гадоў турэмнага зняволення і яшчэ да 3 гадоў ссылкі. Пазней бацька сямейства быў сасланы ў лагер на Кемь, а праз год Канстанцін Вярыга трапіў у турму ў Ленінградзе. У 1928 годзе Ганну Вярыга выклікалі ў памежную камендатуру ў Паланевічах і падчас допыту прапанавалі працаваць на савецкую выведку. Пры гэтым, у выпадку, калі дзяўчына пагодзіцца на супрацу, савецкі афіцэр паабяцаў паспрыяць вызваленню бацькі з турмы. Ганна адразу паехала ў Мінск і дамаглася сустрэчы з татам, які на той момант яшчэ сядзеў у турме на Валадарцы. Канстанцін Вярыга забараніў дачцэ супрацоўнічаць з бальшавікамі.

«Калі вярнулася дадому, то пайшла да каменданта Цяплова ў Паланевічах і сказала яму, што супрацоўнічаць не буду. Бальшавіцкі афіцэр крычаў на мяне і казаў, што ўсю нашу сям'ю сашле на Салаўкі. Я сказала, што магла б падмануць каменданта. Пайшла б у Польшчу і не вярнулася. На што камендант сказаў, што паслаў бы туды свайго агента, і той бы прынёс яму яе галаву», — расказвала ў пратаколе, складзеным польскімі выведнікамі, Ганна Вярыга.

Ужо з Ленінграда бацька сямейства пісаў родным лісты, а дачка Ганна і сын Язэп нават рызыкнулі наведаць тату ў турме. «Бацька тады быў вельмі хворым, страціў вагу», — узгадвала ў пратаколе дзяўчына. Хутка сям'я даведалася, што Канстанцін Вярыга будзе абменены на іншага палітычнага зняволенага, аднак у жніўні 1932 года мужчына памёр.



Савецкі цягнік прыбывае ў Коласава



Ганна Вярыга

## Уратавацца ў Польшчы

Ганне Вярыга ўдалося звязацца з консулам Другой Рэчы Паспалітай у Мінску і даведацца, што сям'я рэпрэсаванага мае права выехаць у Польшчу. 15 верасня 1932 года дзяўчына і яе брат атрымалі неабходныя дакументы для выезду на Захад. Цікава, што гэтай справай займалася жонка вядомага савецкага пісьменніка Максіма Горкага, прадстаўніца польскага Чырвонага Крыжа ў СССР Кацярына Пешкава. У той жа дзень Ганну і Язэпа Вярыгаў прывезлі цягніком на мяжу і ў Коласава/Стоўбцах перадалі польскім уладам. Непасрэдна перад гэтым, яшчэ на савецкай станцыі Негарэлае да дзяўчыны падышоў афіцэр камендатуры ў Паланевічах і сказаў: «Ну што Ганна, у Польшчу едзеш? Ты ж разумная, усё там убачыш, а потым прыходзь да нас і раскажы». Так Радзіма развіталася з дзяўчынай.

Сын палітвязня Канстанціна Вярыгі, Язэп, у сваю чаргу, так апісваў савецкую рэчаіснасць: «Бацька сядзеў у агульнай камеры на першым паверсе. Сустракаліся мы, у асноўным, на калідоры. [...] Камендатура ў Паланевічах знаходзілася ў 2 кіламетрах ад вёскі. Там было шмат новых драўляных будынкаў. 16-ты памежны атрад знаходзіцца ў Койданаве. Я ведаю, што там шмат пяхоты і кавалерыі. [...] Калі я праходзіў вайсковыя зборы, то нас вучылі збіраць і разбіраць вінтоўку, былі заняткі па супрацьгазавай абароне. Апошнія зборы я прайшоў зімой 1931 года». Пасля допытаў, праведзеных польскай выведкай у Баранавічах, Ганне і Язэпу Вярыга дазволілі пасяліцца ў Рубяжэвічах, у сям'і сваякоў.

На пратаколе допыту абодвух рэпатрыянтаў з БССР была адзнака: прыбылі як дачка і сын агента Экспазітуры №1 Другога аддзела Галоўнага штаба Канстанціна Вярыгі, які памёр. Магчыма выкарыстоўваць у выведвальнай працы, пасля кансультацый з шэфам Экспазітуры №1 Другога аддзела Галоўнага Штаба ў Вільні.

## Лёс агента

Парадаксальна, але разам з дзецьмі памерлага ў турме беларускага селяніна ў Польшчу бальшавіцкія ўлады дазволілі вярнуцца і Міхаілу Казіміравічу Цвірбуту. Таму самаму, які ў 1926 годзе выкарыстаў для атрымання шпіёнскіх дадзеных Канстанціна Вярыгу. Падчас Першай сусветнай вайны Цвірбут служыў у Рускім імператарскім войску, а з 1919 года пачаў супрацоўнічаць з польскай выведкай. У 1921–1922 годзе займаўся кравецкай справай, а з восені 1924 года ператварыўся ў кантрабандыста. У 1925 годзе Цвірбут перайшоў мяжу з мэтай збору інфармацыі пра гарнізон РСЧА ў Мінску. «У 1925 годзе я насіў кантрабанду з Доўнарам, які паходзіў з Паланевічаў Койданаўскага раёна. Разам з ім наведалі жыхара БССР Вярыгу, які па нашай просьбе наведаў Мінск», — адзначаў на допыце ў польскай выведцы Цвірбут.

Падчас аднаго з «паходаў» у Савецкую Беларусь «выведнік-кантрабандыст» трапіў у рукі бальшавіцкіх памежнікаў. У пэўны момант «шпіён» апынуўся ў камеры з... Канстанцінам Вярыгам. Ім нават рабілі вочныя стаўкі. 15 чэрвеня 1927 года ў будынку Акружнога суда ў Мінску Міхаіла Цвірбута прысудзілі да 8 гадоў турэмнага зняволення, 3 гадоў ссылкі і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. У 1929 года «агента» накіравалі ў канцлагер у Котласе, дзе вязні працавалі на лесапавале.

Пазней былі іншыя лагпункты, з аднаго з якіх ураджэнец Заходняй Беларусі нават спрабаваў збегчы, але быў злоўлены і трапіў у карцар. У канцы траўня 1932 года Міхаіл Цвірбут быў пераведзены ў Салавецкі лагер, а ў верасні таго ж года яго прывезлі ў Мінск, дзе перасадзілі ў цягнік, які ішоў у бок Коласава. Як і ў выпадку з Ганнай Вярыга, Цвірбуту некалькі разоў прапаноўвалі супрацоўніцтва з ДПУ. У канцы пратакола, складзенага падчас допыту ў Баранавічах, следчы польскай выведкі адзначыў: «Выказаў жаданне працягваць працу ў закардоннай выведцы».

На вялікі жаль, невядомы далейшы лёс гэтых людзей. Магчыма, Міхаіл Цвірбут працягваў займацца кантрабандай і «злавіў» сваю кулю ад тых ці іншых памежнікаў. Цікава, як Ганна і Язэп Вярыгі перажылі падзеі 17 верасня 1939 года. Савецкія спецыяльныя органы не прапусцілі б тых, хто збег ад іх у пачатку 1930-х. Магчыма, праўду пра лёс гэтых жыхароў Беларусі ў будучым мы ўсё ж знойдзем. У іншых архівах...



Сваякі чакаюць палітвязняў на вакзале ў Стоўбцах, пачатак 1930-х гадоў



Міхаіл Цвірбут

**Фота з архіву аўтара**



# «Чорныя макі» Вольгі Гапеевай

**Падаецца, прароцтва Арцюра Рэмбо пра тое, што «Паэтка ў будучыні знойдзе невядомае (...), адкрые дзівосны, недасяжны, брыдасны і далікатны свет», цалкам спраўдзілася ў беларускім выпадку дзякуючы Вользе Гапеевай**

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

***«цяпер мой каханы болей***
***ня мой***
***і не каханы***
***цяпер***
***ёсць толькі цяпер».***

У свет выйшаў новы зборнік вершаў Вольгі Гапеевай, так па-ўпадніцку названы «Чорныя макі». Гэта з першага навarату апусканне ў крыху змрочны свет няспраўджанага кахання, чорных думак, зацьмення, мораку, чорнай магіі, чорнага снегу і чорных імгненняў, якія ўсе мы калісьці зведваем, чорных макаў, як назвала гэты перыяд сама паэтка. Але не толькі няроўнае каханне паўстае ў зборніку, на змену чорнаму заўсёды надыходзіць светлае: аптымізм часу, заваёваў, індывідуалізму і фемінізму, філасофстваванне, развітанне з несапраўдным каханнем і пошук новага — вось яшчэ на што багаты невялічкі і дыхтоўны зборнік вершаў.

І, канешне, усім цікавая сама аўтарка, асоба, паэтка з кагорты Цёткі і Ганны Новік. Заўсёды, калі гляджу на Вольгу Гапееву, калі чытаю яе вершы, бачу, як дзякуючы таленту і часу, сягнула далей за сваіх слынных папярэдніцаў паэтка ў пытанні вызвалення і эмансіпацыі, цалкам захаваўшы шарм і шлейф рэвалюцыянеркі, эксперыментатаркі і самотніцы. Вольга ўвасабляе ідэал Сімоны дэ Бавуар — сапраўды незалежнай кабеты, паэткі. Ёй не трэба дзяліць жыццё з кімсьці, залежаць ад кагосьці, быць жонкай кагосьці, — яна сама ва ўсім і сабе перадусім гаспадыня. Многія шукаюць, выглядаюць новую жанчыну на Захадзе, але яна ўжо з’явілася ў нас — і гэта Вольга Гапеева.

Вусціш у тым — і пра гэта піша сама паэтка, — што мужчыны ў нас застаюцца старымі, і мяняцца баяцца яны. І вусціш у тым, што гэтага баіцца Беларусь, мясцовы літаратурны бамонд, не гатовы да зменаў, не гатовы саступіць эстафету, бо «роля рыцаркі не прадугледжаная ў каралеўстве драконаў і іх даглядальнікаў». Але саступак і не шукае тая, хто ідзе па слядах Цёткі і Ганны Новік. Прагрэс, адукацыя, заваёвы часу, досыць роўны доступ кабетаў і мужчынаў да публічнага ў цяперашнім беларускім грамадстве і, канешне, сама воля паэткі, — усё гэта спрыяе раскрыццю, квітненню і перадае ў рукі кабетаў эстафетную, амаль зачараваную палачку.

Паэтка, насамрэч, увасабляе цэлы мастацкі і феміністкі рух, яна адна ставіць пад сумнеў сцвярджэнне пра тое, што ў Беларусі няма фемінізму — дзякуючы Вользе ён ёсць, і мае такое прыгожае, эстэцкае, высакаякаснае і іранічнае афармленне. Вершавана фемінізм гучыць яшчэ далікатней, прыгажэй, праўдзівей і дасціпней кожнаму і кожнай, а паэзія набывае новыя сэнсы і апраўданні:



*«...мужчына, вызначыся*
*і хопіць ужо гэтай бінарнасці*
*шлёндры і пані марыі*
*свет разнастайней і ролі даўно перапісаныя...».*

Зрэшты, дзякуючы паэтцы ў нас ёсць сучасная, цалкам еўрапейская філасофская паэзія.

Хоць і пазначалася ўжо, што ў новым зборніку адразу кідаецца ў вочы чорны змест: падчасткі зборніку так і называюцца — «Зацьменне» і «Морак», але забягу наперад і супакою чытацтва: паэтка выкарасквaецца з таго чарноцця і выцягвае з сабою нас у свет макаў, якія пачынаюць пунцавець надзеяй і адновай. Яна смела, хоць і не бясследна для псіхалагічнага здароўя, развітваецца з мужчынамі, якія баяцца, якім не хапае мужнасці, якія пасіўнічаюць, любуюцца сабой, а яшчэ больш любяць, калі любуюцца імі і, зрэшты, пераўтвараюцца ў торт. Паэтка прабіваецца скрозь маўчанне і заўсёды «абірае мову», прабіваецца скрозь пакуты і адзіноту мацерак і становіцца іх голасам, рупарам, яна заўсёды агучвае свае і думкі тых, хто не адважваецца гаварыць. І, канешне, яна гаворыць і за баязлівых мужчынаў.

Асобнае месца ў вершах займае маці паэткі — вобраз Маці ўсіх паэтак і паэтаў, маці, з якой і пачынаецца фемінізм у сям’і:

*«...радзіма маці паэтак — спарта*
*цела маці паэтак — са сталі*
*моцныя людзі стрываюць усё, жалезныя нервы*
*жалезная воля».*

Бо і дзякуючы маці паэтка становіцца паэткай і мяняе свет:

*«бо маці паэткі (...)*
*як класікі пішуць*
*вядома ж лепшай долі жадала*
*у свеце жалеза і сталі*
*дзякуй скажуць паэткі*
*дзякуй, адгукнуцца паэты*
*і зменяць планету».*

І зноў паэтка (не паэт, які крывадушнічае, саромецца агаліцца, саромецца павучыцца ў паэткі) з княства інтымнага робіць не проста публічную тэму, але тэму цэнтральную, цікавую і вядомую ўсім, бо ўсе мы:

*«...перасечаныя*
*пасечаныя*
*пакрэсленыя*
*і выкрасленыя*
*кімсьці трэцяй».*

Вольга Гапеева не баіцца інтымнага, прыватнага, а як сучасная амазонка ўмее і агаліцца, і перадусім агаліць крывы свет:

*«сядай, мой каханы*
*уладкоўвайся зручна*
*кідай усё лайно ў мяне*
*можаш і падрачыць калі трэба*
*на тую, што ты сапраўды «кахаеш»*
*я ж разумею — унітазы не для кахання*
*яны для іншага так бы мовіць*
*а цяпер, мая дарагая дзяўчынка, увага пытанне:*
*ты хочаш быць унітазам?»*

Паэтка ў каханні анулюе ўсе візы і руйнуе ўсе межы:

*«мой каханы сядзіць на ўскрайку ложка*
*а я на ўскрайку сябе гатовая скасаваць усе межы*
*звольніць усіх мытнікаў*
*ніякіх візаў уздоўж майго цела і больш тонкіх матэрый».*

Падаецца, прароцтва Арцюра Рэмбо пра тое, што «Паэтка ў будучыні знойдзе невядомае (...), адкрые дзівосны, недасяжны, брыдасны і далікатны свет», цалкам спраўдзілася ў беларускім выпадку дзякуючы Вользе Гапеевай.

Чорныя макі выцвітаюць і паступова пунцавеюць, а паэтка, хоць і «ведае лепш мінулы час», застаецца, нават без упынку ўвальваецца, вырываецца ў цяпер і жыве ў свеце, дзе «анёлкі толькі і робяць, што займаюцца каханнем» — у гэтым яе выратаванне, моц і прываблівасць для чытацтва. Паэтка не проста так любіць макі, асабліва чорныя макі, якія здаўна сімвалізуюць не толькі смерць, сон, але і фрывольнасць, часовую асалоду і ўрадлівасць...

# БагатаДата

**Станіслаў Манюшка, Фларыян Міладоўскі, Паўлюк Трус, Павел Жаўрыд, Дзень памяці і Дзень Еўропы, а таксама іншыя падзеі і факты ў нашым агляддзе.**

### 4 траўня

**1819.** У Мінску нарадзіўся Фларыян Міладоўскі, кампазітар, піяніст, дырыжор і музычны крытык. З дзяцінства ўсё жыццё сябраваў са Станіславам Манюшкам, з якім навучаўся ў аднаго педагога



Фларыян Міладоўскі

Дамініка Стафановіча. Граф і вядомы мецэнат Бенядзікт Тышкевіч у 1836 годзе запрасіў Міладоўскага ў маёнтак Чырвоны Двор непадалёк ад Коўна ў якасці настаўніка музыкі для сваіх дзяцей і на пасаду дырыжора сімфанічнага аркестра, які неўзабаве стаў адным з лепшых прыватных аркестраў у Еўропе. Калі маёнтак з аркестрам занепаў пасля смерці графа Тышкевіча, кампазітар пераехаў у Вільню, а затым у вёску Мацкі пад Мінскам, дзе стварыў аперэту «Канкурэнты». Затым быў цыкл песень «Польскія напевы», мазуркі, паланезы, накцюрны, экспромты, некаторыя з якіх выдаваліся ў еўрапейскіх зборніках. У 1862 годзе Фларыян Міладоўскі эміграваў у Францыю, дзе выкладаў у музычнай школе. Там было Міладоўскі аслеп, але пасля аперацыі зноў пачаў бачыць. Памёр у 1889 годзе ў Бардо.

### 5 траўня

**Міжнародны дзень барацьбы за правы інвалідаў**, а таксама **Міжнародны дзень акушэркі** і **Дзень друку ў Беларусі паводле ўказу кіраўніка дзяржавы 1996 года** (у гэты дзень у 1912 годзе выйшаў першы нумар бальшавіцкай газеты «Праўда»).

**1819.** На дзень пазней за згаданага вышэй Міладоўскага ва Убелі, што ў Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці, нарадзіўся яго сябра Станіслаў Манюшка — беларускі і польскі



Станіслаў Манюшка

кампазітар, дырыжор і педагог, стваральнік нацыянальнай класічнай оперы. У 1858–1872 гадах Манюшка быў дырыжорам і дырэктарам опернага тэатру, прафесар Музычнага інстытуту ў Варшаве. Папулярнасць атрымаў дзякуючы операм «Галька» і «Страшны двор». Усяго ж стварыў дваццаць опер і аперэт, тры балеты, пяць месаў, два рэквіемы і болей за трыста песень, у тым ліку і «Паходную песню ліцвінаў» на словы Уладзіслава Сыракомлі. Станіслаў Манюшка напісаў толькі часткова захаваную да нашых дзён музыку да «Сялянкі» («Сельскай ідыліі») на лібрэта Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Гэта была першая беларуская опера! Прэм'ера адбылася ў Мінску 9 лютага 1852 года. Увосень 2016 года абодвум гэтым творцам — аўтарам музыкі і лібрэта — быў усталяваны помнік у Мінску.

### 6 траўня

**1904.** У вёсцы Нізок каля Узды на Міншчыне нарадзіўся паэт Паўлюк Трус. Дэбютаваў з вершамі ў 1923 годзе. Памёр ад тыфу і пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску ў 1929 годзе. У сталіцы ёсць вуліца, названая ў яго гонар, а многія



Паўлюк Трус

пакаленні нашых школьнікаў вучаць на памяць файны верш: «Падаюць сняжынкі — дыменты-росы, // Падаюць бялюткі за маім акном… // Расчасала вішня шоўкавыя косы // І ўраніла долу снегавы вянок».

### 7 траўня

**1794.** Тадэвуш Касцюшка выдаў Паланецкі ўніверсал, якім усе сяляне Рэчы Паспалітай абвяшчаліся вольнымі ад прыгоннага права, але без надзялення іх зямлёй. Дакумент папярэджваў, што парушэнне гэтай пастановы памешчыкамі будзе каранца як за процідзеянне мэтам паўстання. Універсал выконваўся дрэнна, бо памешчыкі зацягвалі з яго аглашэннем, а некаторыя ішлі на змову з рускім войскамі.

**1929.** У вёсцы Доўск Рагачоўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся Яўген Казлоўскі, вучоны-геолаг, міністр геалогіі СССР у 1975–1989 гадах.

### 8 траўня

**Дзень памяці і прымірэння.**

**1954.** У Брэсце нарадзіўся вядомы спартовы каментатар Уладзімір Навіцкі. Першы футбольны рэпартаж правёў яшчэ ў 1981 годзе з матчу мінскага «Дынама» і ташкенцкага «Пахтакору». Шэраг яго фразаў-завядзёнак сталі крылатымі. Напрыклад, «Моцна, але недакладна!»

### 9 траўня

**Дзень Перамогі і Дзень Еўропы.**

**1929.** Пачала працаваць ад-




мысловая камісія ЦК УКП(б) па абследаванні практыкі правядзення нацыянальнай палітыкі ў БССР. З яе крытычнага дакладу ўлетку гэтага года пачалася новая хваля рэпрэсій у перадусім супраць нацыянальнай інтэлігенцыі.

### 10 траўня

**1894.** У Бярозе, што на Брэстчыне, нарадзілася папулярная яўрэйская пісьменніца і пера-



Кадзя Маладоўская

кладчыца Кадзя Маладоўская. Жыла і працавала ў Польшчы, Ізраілі, ЗША. З адным яе перакладам адбылася кур'ёзная гісторыя. Маладоўская сама пісала дзіцячыя вершы, а аднойчы выдатна пераклала на ідыш вядомы верш «Багаж» Самуіла Маршака. Праз нейкі час склалася легенда, што гэта Маладоўская — аўтарка арыгінальнага тэксту, а Маршак скраў яго ды пераклаў на рускую мову.

### 11 траўня

**Сусветны дзень справядлівага гандлю.**

**1899.** У расійскім Вазнясенску нарадзіўся беларускі акцёр тэатра і кіно, народны артыст СССР Глеб Глебаў (сапраўднае прозвішча — Сарокін). Ролі ў спектаклях: «Хто смяецца апошнім», «Паўлінка». Ролі ў кіно: «Несцерка», «Міколка-паравоз», «Маска — Геную», «Першыя выпрабаванні» і г.д.

**1939.** Памёр у савецкім лагеры праз хваробу адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну Павел Жаўрыд.

### 12 траўня

**Міжнародны дзень медсястры.**

**1894.** У вёсцы Кавалі Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Максім Ляўкоў. Быў наркамам юстыцыі і пракурорам. У 1937 годзе арыштаваны і асуджаны «тройкай» НКУС да расстрэлу нібыта як агент польскай разведкі і сябра нацыянал-фашысцкай арганізацыі.

**1954.** БССР уступіла ў адмысловую ўстанову Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях асветы, навукі і культуры — ЮНЕСКА. Чатыры аб'екты нашай краіны ўваходзяць у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА: Белавежская пушча, замкавы комплекс «Мір», музей-запаведнік «Нясвіж» і геадэзічнае збудаванне Дуга Струвэ. Сярод нематэрыяльнай культурнай спадчыны — абрад «Калядныя цары» і Будслаўскі фэст.

### 13 траўня

**1894.** У вёсцы Капачоўка Барысаўскага раёна на Міншчыне нарадзіўся беларускі палітычны і ваенны дзеяч Іван Ермачэнка. У Грамадзянскую вайну — афіцэр Белай арміі, ад'ютант генерала Урангеля. У 1921 годзе — прадстаўнік ураду БНР у Канстанцінопалі і генеральны консул на Балканах: заснаваў консульскія аддзелы БНР у Югаславіі і Балгарыі. Пазней — намеснік міністра замежных спраў БНР. У 1939 годзе прапанаваў МЗС Германіі план разгрому СССР. Падчас вайны быў дарадцам генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ. Пасля вайны — на эміграцыі ў ЗША, дзе працаваў лекарам.

### 14 траўня

**1869.** У Мінску з'явіўся на свет жывапісец Янкель Кругер. Напісаў партрэты Сталіна, Варашылава, Горкага, Коласа, Купалы, Бядулі, Міхоэлса. Вядомы таксама карцінамі са сцэнамі яўрэйскага побыту.

**1874.** У Мінску з нагоды запуску водаправоду ўсталяваны знакаміты фантан, аздоблены скульптурнай кампазіцыяй «Хлопчык з лебедзем». Стаіць ён у Аляксандраўскім скверы, які цяпер у народзе называюць Панікоўкай — ад аматара гусей, а не лебедзяў Панікоўскага, героя рамана «Залатое цяля» Ільфа і Пятрова. Такі вось гарадскі фальклор.

### 15 траўня

**Міжнародны дзень сем'яў, Міжнародны дзень клімату** і **Міжнародны дзень адмоўнікаў ад вайсковай службы па перакананнях сумлення.**

**1979.** У Мінску на 50-годдзе заснавання Нацыянальнай акадэміі навук адкрыўся Музей старажытнабеларускай культуры. У аснову музейнага збору пакладзены калекцыі, сабраныя на працягу многіх гадоў супрацоўнікамі Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы падчас экспедыцый па ўсёй тэрыторыі Беларусі.

### 16 траўня

**1889.** Першая публікацыя сатырычнай паэмы «Тарас на Парнасе» — у газеце «Минский листок». Сюжэт твора — прыгоды палясоўшчыка Тараса, які выправіўся ў пушчу, а трапіў на Парнас — месца, дзе жылі багі і паэты. Паэма напісана, найбольш верагодна, у 1850-я гады. Доўга распаўсюджвалася ў рукапісах. Аўтарам лічыцца Канстанцін Вераніцын, які родам з вёскі Астраўляны Гарадоцкага раёна на Віцебшчыне, выпускнік Віцебскай гімназіі, Горы-Горацкага земляробчага інстытуту і Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. У розны час існавалі пазней адпрэчаныя версіі, што паэма «Тарас на Парнасе» — твор Дуніна-Марцінкевіча, Вярыгі-Дарэўскага, Равінскага.

### 17 траўня

**Міжнародны дзень барацьбы з гамафобіяй** і **Міжнародны дзень электрасувязі і інфармацыйнага грамадства.**

**1934.** Пайшоў з жыцця Міхаіл Кахановіч, палітычны дзеяч, педагог, публіцыст. Ён быў першым дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. Абіраўся дэпутатам у Сойм Польшчы. У 1925 годзе пераехаў у БССР. Арыштаваны ў 1933 годзе, калі працаваў карэктарам у друкарні імя Сталіна, па «справе Беларускага нацыянальнага цэнтру». Расстраляны ў Мінску.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №

Падпісана да друку 10.05.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.